# Права на працу, асвету і адпачынак







Канстытуцыя краіны соцыялізма! Кожны раз, калі мы чытаем гэты мудры закон, нас ахапляе пачуццё гордасці за нашу цудоўную Радзіму, за слаўную Комуністычную партыю, якая вядзе совецкі народ да комунізма.

У ёй, у нашай Канстытуцыі, совецкія людзі знаходзяць замацаваныя навечна вялікія правы — на працу, на асвету, на адпачынак. Такімі правамі ніколі не карысталіся і не карыстаюцца цяпер працоўныя капіталістычнага свету.

Новая Совецкая Канстытуцыя была прынята 5 снежня 1936 года на Надзвычайным VIII Усесаюзным з'ездзе Советаў. Гэты дзень стаў усенародным святам у нашай краіне. Совецкія людзі сустракаюць яго новымі поспехамі ў працы на фабрыках і заводах, у сельскай гаспадарцы, у навуковых лабараторыях.

Шырока адкрыты дзверы ў навуку шчаслівай, совецкай моладзі. У нашай рэспубліцы працуюць дзесяткі вышэйшых навучальных устаноў, сотні і тысячы сярэдніх школ і рознастайных тэхнікумаў, вячэрніх школ, курсаў. Тысячы юнакоў і дзяўчат вучацца, набываюць спецыяльнасці, з радасцю аддаюць свае веды агульнанароднай справе. У вольны час яны весела і культурна адпачываюць.

З запалам, з вялікай энергіяй працуюць і вучацца комсамольцы-стаханаўцы Мінскага аўтамабільнага завода.

Вось брыгадзір комсамольскай брыгады эксперыментальнага цэха завода Міхаіл Дубаўцоў (злева на фота ўверсе) і комсамолец яго брыгады Эдуард Багдановіч. Удумлівыя, сур'ёзныя, напорыстыя — такія яны за работай. І нічога няма дзіўнага, што, працуючы на выпрабаванні вузлоў самазвалаў «МАЗ-205», магутных 25-тонных машын «МАЗ-525», Міхаіл Дубаўцоў у спаборніцтве па прафесіях моцна трымае першае месца. Добра выконвае ён і свае комсамольскія абавязкі сакратара цэхавага комсамольскага бюро.

Закончаны працоўны дзень, і малады спецыяліст ідзе ў інстытут. Ён вучыцца на вячэрнім аддзяленні Беларускага дзяржаўнага політэхнічнага інстытута імя Сталіна, якое ў гэтым годзе адкрылася пры заводзе.

Комсамолец Эдуард Багдановіч вясной гэтага года скончыў дзесяты клас 2-й вячэрняй школы рабочай моладзі. Цяпер разам са сваім брыгадзірам ён таксама вучыцца ў інстытуце.

Вось яны — на занятках. Побач з імі — кантралёр цэха шасі комсамолка Людміла Мацвеенка (справа на здымку), а таксама комсамольцы іншых цэхаў. На першы курс прынята 97 рабочых і тэхнікаў. Уважліва слухаюць будучыя інжынеры лекцыю. Тэарэтычныя веды спатрэбяцца ім у іх штодзённай рабоце: многае пасля лекцыі зробіцца больш зразумелым, ясным, дакладным.

Цікава праводзіць моладзь выходны дзень. Яна наведвае музеі, кіно, тэатры, спартыўныя залы і пляцоўкі. Міхаіл Дубаўцоў, Эдуард Багдановіч і сястра Дубаўцова — студэнтка 5-га курса Мінскага медыцынскага інстытута ў адзін з выходных дзён пабывалі ў Беларускай дзяржаўнай карціннай галерэі (здымак унізе). Па творах мастацтва папаўняюць яны свае веды па гісторыі свайго народа і сваёй радзімы, па гісторыі іншых краін.

Так жыве наша моладзь. І дала гэта ёй наша Комуністычная партыя, наша Совецкая Улада, наша Канстытуцыя!

Тэкст Л. Таўлай.
Фота М. Мінковіча.



**З кожным годам прыгажэюць і добраўпарадкоўваюцца гарады нашай рэспублікі. Над пытаннямі рэканструкцыі, азелянення і добраўпарадкавання працуе калектыў Беларускага дзяржаўнага праектнага інстытута.** На здымку: **група камсамольцаў «Белдзяржпраекта» за калектыўным абмеркаваннем работы тэхніка Анатоля Фінскага (злева направа): старшы тэхнік Аляксандр Міхалевіч, Анатоль Фінскі і старшы архітэктар Наталля Немчынава.**

Фота А. Дзітлава.


# МАЛАДОСЦЬ

Пролетарыі ўсіх краін, еднайцеся!

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі.

№ 9. Снежань, 1953 год.

А. ПУШКАРСКІ

# Перад справаздачай

У жыцці кожнага бывае такі дзень, пасля якога неяк адразу адчуваеш сябе пасталеўшым. Для Віктара Пахомава гэта быў дзень XIV раённай камсамольскай канферэнцыі. Хоць Віктар незадоўга перад гэтым ужо ведаў, што яго будуць рэкамендаваць сакратаром райкома камсамола, усё-ж да апошняй хвіліны ён ніяк не мог уявіць усёй глыбіні адказнасці, якую збіраліся ўскласці на яго. Толькі на арганізацыйным пленуме ён неяк адразу адчуў, што ў жыцці наступіў круты паварот.

Ён паімкнуўся ўявіць, у чым заключаецца гэты паварот. Не толькі-ж у тым, што вось ён, Віктар Пахомаў, пастаўлены цяпер на чале раённай камсамольскай арганізацыі. Яму раптам яскрава ўявіўся ўвесь складаны шлях сакратара райкома да трыбуны чарговай канферэнцыі. Падумалася: для аднагодкаў ён цяпер не проста Віцька, а важак, арганізатар моладзі ў маштабе ўсяго раёна. І каб не было потым сорамна за дрэнную работу, трэба адкінуць прэч ранейшую бесклапотнасць і весялосць — яна можа перашкодзіць, — але і не ператварыцца, наадварот, у сухога чалавека.

Неўпрыкметку прабег справаздачны год. Падыходзіць чарговая камсамольская канферэнцыя. На ёй дэлегаты скажуць: ці не быў сакратар занадта афіцыйным і таму крыху старavatым для сваіх дваццаці пяці гадоў. А можа, наадварот.

Канец справаздачнага года заўсёды багаты справамі. Нельга і на гадзіну спыніць штодзённую працу, а тут рыхтуй даклад, праводзь выбары ў пярвічных арганізацыях.

Работнікі райкома, члены бюро — увесь баявы штаб раённай арганізацыі ў гэтыя дні асабліва заняты. То выезды ў калгасы, то абмеркаванне справаздачнага даклада.

Галоўнае ў дакладзе — справы людзей. Яны — паказчык сталасці і боездольнасці арганізацыі, паказчык таго, як райком здолеў накіраваць энергію моладзі на ажыццяўленне партыйных дырэктыў.

Прадумваючы канспект даклада, Віктар Пахомаў запісвае ў блакнот лаканічныя, для памяці, заўвагі. Многія з іх поўнасцю пяройдуць у даклад: яго рамкі цесныя — не разгонішся.

— Аб справах маладых рабочых нашых прадпрыемстваў, — зазначае Віктар Пахомаў, — можна гаварыць шмат, але такой магчымасці няма. Прыдзецца толькі назваць прозвішчы, прывесці лічбы выканання плану.

— А помніце Юлію Карпаву? Яна на мінулай канферэнцыі абавязацельствы брала... Нядаўна з камітэта камсамола паведамілі, што абавязацельствы выкананы. Старанная дзяўчына. Аб такой абы як не скажаш, — гаворыць загадчык арганізацыйнага аддзела Павел Карніенка.

Віктар Пахомаў успамінае звáршчыцу Юлію Карпаву. Калі Юлія брала на сябе вельмі высокія абавязацельствы, некаторым дэлегатам канферэнцыі тады думалася: ці стрымае сваё слова дзяўчына, ці не занадта многа бярэ яна на сябе. Але Юлія правільна разлічыла свае сілы — абавязацельства выканана датэрмінова.

Сакратара перабівае загадчык арганізацыйнага аддзела.

— Калі гаварыць аб калгаснай камсамольскай арганізацыі, дык лепшай, чым у калгасе імя Дзержынскага, не знойдзеш.

— Што-ж, кандыдатура добрая, — згаджаецца Надзежда Александрова, загадчык аддзела піянераў. — Раскажы, Павел, хоць коратка, як у іх цяпер справы.

Павел Карніенка гаворыць хвілін дзесяць. Прыпамінае выступленні на апошнім камсамольскім сходзе, па памяці прыводзіць абавязацельствы, іх выкананне.

Праўленне распрацавала мерапрыемствы, у іх было запісана: зрабіць кожным дваром 100 торфаперагнойных гаршэчкаў для расады. Камсамольцы-ж узяліся зрабіць па 200 гаршэчкаў. І так ва ўсім, — расказвае Карніенка. — Або ўзяць сіласаванне. Праўленне вызначыла план, а камсамольцы — сустрэчны. І назаўтра-ж за работу... На справе вырашылі даказаць сваю праватý.

Дзесяць хвілін для Паўла Карніенкі — гэта тэрмін, за які можна было сцісла расказаць аб рабоце арганізацыі. А для дакладчыка — чвэрць яго рэгламенту. І Віктар Пахомаў запісвае толькі самае асноўнае.

Затым у блакноце паяўляецца кароткі запіс: «Камсамолка Клаўдзя Бугрымава з калгаса імя Калініна выгадавала 600 курaнят, узятых з інкубатарнай станцыі».

Успамінаецца сустрэча з гэтай сціплай, негаваркой дзяўчынай. Клаўдзя быццам сароміцца: адказвае коратка, з неахвотай. Так і не атрымалася задушэўнай размовы. А добра было-б расказаць дэлегатам аб патаемных думках дзяўчыны, аб яе марах і спадзяваннях. Тады перад імі паўстаў-бы вобраз нашага сучасніка ва ўсёй яго прыгажосці, з яго велічнымі, хоць і будзённымі, справамі. У дакладзе-ж будзе толькі факт. І Віктар думае аб тым, што многае яшчэ застаецца па-за ўвагай тых людзей, якія заклікаНы выхоўваць. Якое-ж можа быць выхаванне чалавека, калі аб ім толькі і ведаеш тое, што ён выгадаваў 600 курaнят? Выходзіць, было ў рабоце штосьці загаННае, непрадуманае. Цікавіліся працэнтам выкананай нормы, а не жывым чалавекам з яго пачуццямі, думкамі. Чалавека засланяў вынік яго работы.

— Запішыце для памяці Клаўдзю Яўменeнка, Веру Куцэба, Аляксандра Лапату, — прaглядаючы запісную кніжку, гаворыць сакратару Карніенка.

І зноў перад Віктарам Пахомавым паўстаюць сухія, як газетная інфармацыя, факты: «Клаўдзя Яўменeнка атрымала ад кожнай свінаматкі па 19 дзелавых парасят». Што скажуць дэлегатам гэтыя лічбы? Хіба за імі ўбачаць яны бяссонныя ночы, трывогі, хваляванні дзяўчыны, яе самаахвярную адданасць рабоце?

— Я думаю, — гаворыць Віктар Пахомаў, — што цяпер асабліва становяцца відавочнымі нашы недахопы. У рабоце мы іх не заўважалі, а цяпер — як на далоні... Дрэнна мы людзей ведаем. Як ні дзіўна, але гэта так. Ты можаш сказаць аб названых кандыдатурах больш таго, што адна — добрая свінарка, а другая — цялятніца?

Карніенка спрабуе ўспомніць хоць твары гэтых людзей, але, апрача таго, хто з іх колькі выгадаваў курaнят, парасят або цялят, колькі маюць працадзён, што аб іх гаварыў старшыня калгаса, брыгадзір, ён ніяк не можа нічога ўспомніць. Што, напрыклад, чытае тая-ж Клаўдзя Яўменeнка, з кім яна дружыць і якая гэта дружба, ён не падумаў. А ў камсамольскай рабоце ўсё важна, і апошняе, можа, нават больш важна, бо ад яго залежыць і поспех працы.

На стале расце горка з аркушаў паперы. Гэта — старонкі будучага справаздачнага даклада. У ім асветлена і прапагандысцкая работа, і фізічнае выхаванне моладзі, расказваецца аб колькасці пасяджэнняў бюро і пленума. Усё зроблена па форме: вытрыманы прапорцыі раздзелаў, прыведзены факты, ёсць крытыка і самакрытыка. Пасля даклада будуць і выступленні: па канспекту і без канспекта, гладкія і крыху блытаныя. Будуць крытыкаваць і ўносіць прапановы.

Віктар Пахомаў усміхаецца нейкай думцы, якая толькі што прыйшла да яго.

— Чаго я ўсміхнуўся? Падумаў, калі вось так працаваць, дык можа здарыцца, што больш не падымуцца за нас рукі. Хіба толькі за тым і падымуцца, каб выкрэсліць тваё прозвішча з бюлетэня. Няхай нават не будзе сказана крыўдных, горкіх слоў з трыбуны: адна рыска, крыху няроўная ад паспешлівасці, праведзеная праз радок з тваім прозвішчам, скажа больш, чым дзесятак прамоў. Кожны вычарк — не проста рыска, а страшэнная сілы крытыка і дзелавая характарыстыка. Выявіўшы нашы недахопы, хочацца паставіць работу так, каб чалавек стаў у цэнтры нашай увагі. Вы не думайце, гэта складаная справа — ведаць думкі чалавека, яго імкненні, пажаданні. Але гэта трэба, інакш нельга працаваць, нельга выхоўваць. А вось як перабудаваць работу? Аб гэтым варта многім падумаць.

**Рэчыцкі раён**
**Гомельскай вобласці.**

У лістападзе адбыўся чарговы пленум ЦК ЛКСМБ, на якім былі абмеркаваны задачы камсамольскіх арганізацый Беларусі ў сувязі з пастановай Пленума ЦК КПСС «Аб мерах далейшага развіцця сельскай гаспадаркі СССР». На здымку: удзельнікі пленума (злева направа — сядзяць) даярка калгаса імя Панамарэнкі Бабруйскай вобласці Анна Дзяжкевіч, механік-камбайнер Ліпеньскай МТС Бабруйскай вобласці Іван Майдзібор, звенявая калгаса імя Карла Маркса Гомельскай вобласці, Герой Сацыялістычнай Працы Насця Сафонава, звенявая калгаса імя Молатава Полацкай вобласці Марыя Арэхава; (стаяць) брыгадзір трактарнай брыгады Валожынскай МТС Маладзечанскай вобласці Адам Алешка, сакратар камсамольскай арганізацыі калгаса «Заветы Ільіча» Бабруйскай вобласці Іван Пракаповіч, камбайнер Баршчоўскай МТС Гомельскай вобласці Іван Мельнічэнка, трактарыст Мазырскай МТС Палескай вобласці Уладзімір Ярош.

Фота Ф. Чэховіча.





В. ХАЗАНСКІ

# Комсамольскі кантроль

У кабінеце начальніка цэха адна супраць другой стаяць дзве дзяўчыны. Кожная трымае ў руках некалькі пар панчох і ваяўніча размахвае імі. Гэта добра відаць работніцам праз зашклёныя дзверы, што выходзяць у цэх. Хоць у цэху не чуваць, аб чым спрачаюцца дзяўчаты, але аб тым, што яны спрачаюцца, здагадваюцца ўсе.

— Зноў кантроль на комсамольскі пост натрапіў, — заўважае адна з работніц.

— Зубастыя дзяўчаты! — падтрымала яе другая. — Нікому спуску не даюць! Ужо і да кантралёраў дабраліся.

Начальнік цэха Хрысціна Грыгор'еўна Ляошкіна мірыла дзяўчат:

— Хопіць ужо вам, хопіць! Навошта так гарачыцца, — гаварыла яна тонам старэйшага таварыша.

— Ці-ж можна быць спакойнай, калі самі кантралёры прапускаюць брак? Дажыліся!.. — абуралася Валянціна Аглушэвіч.

— Лезеце не ў сваю справу, — перабіла Валянціну кантралёр Лена Смірнова. — Вы за работніцамі сачыце, а не за мной. Я сама свае абавязкі добра ведаю, і няма чаго вам над кантролем кантроль устанаўляць. Так я кажу, Хрысціна Грыгор'еўна?

— Гаворыш ты правільна. Кантралёр — спецыяльна пастаўлены дзяржавай чалавек. Яму абавязаны дапамагаць усе, у тым ліку і комсамольцы. Самае правільнае, калі кантралёр і комсамольскі пост будуць працаваць разам, а не думаць аб тым, хто каго правяраць павінен.

— Вось бачыш! Што я казала?!.

— Але, — перабіла Лену Смірнову Хрысціна Грыгор'еўна, — нашы кантралёры яшчэ не спраўляюцца са сваімі абавязкамі, дрэнна сочаць за якасцю, і правільна зрабілі комсамольцы, калі праверылі іх.

...Прасторны цэх. Ад машыны да машыны па транспарцёру рухаюцца пачкі панчох. Гэта кецельны ўчастак. Тут робіцца кетлёўка (застрочка ніжняй часткі) высокагатункових капронавых панчох і рысунчатых наскоў.

Спрытным рухам работніца бярэ панчоху, якая хутчэй нагадвае адарваны рукаў ад трыкатажнай кашулі, надзявае яе на круглы механізм. На ім — да трохсот іголак, або токаляў. І на кожны токаль трэба надзець вочка панчохі — маленькую пятлю. Не надзень толькі адно вочка, як распусціцца ўвесь рад, і панчоха пойдзе ў брак.

У канцы ленты кантралёр хуценька перабірае панчохі: правярае якасць. За дзень яму прыходзіцца перабраць мо' тысячу пар панчох. Як ні глядзіш, а брак праходзіць.

У дапамогу кантролю ў цэху быў выбраны комсамольскі кантрольны пост. Кіраваць ім прызначылі Валянціну Аглушэвіч. У пост былі ўведзены таксама кецельшчыцы Ліда Барысенка і Надзежда Грачухіна. Пры першай-жа праверцы пост выявіў шмат браку і знайшоў вінаватых у гэтым. У другі раз паўтарылася тое-ж самае. Дзяўчат занепакоіла

**У вязальным цэху Віцебскай фабрыкі «КІМ». Члены комсамольскага кантрольнага паста Валянціна Аглушэвіч** (у цэнтры) **і Надзежда Грачухіна** (справа) **правяраюць якасць капронавых панчох, выробленых вязальшчыцай Марыяй Аўлокавай.**

Фота М. Мінковіча.



**Члены комсамольскага кантрольнага паста** (злева направа) **Надзежда Грачухіна, Валянціна Аглушэвіч, групорг Любоў Пашкоўская і стаханаўка Валянціна Анжыян правяраюць якасць панчох на сваім участку.**

незразумелая акалічнасць: пасля кожнага налёту абавязкова выяўляецца адна-дзве нядобраякасныя панчохі, хоць кантралёр і прапусціла іх першым гатункам.

— А што, калі мы пойдзем па слядах Смірновай, пераправерым яе? — сказала аднойчы Валянціна членам паста.

Так і зрабілі. І адразу выявілі неахайную работу кантралёра. Вось тады і адбылася спрэчка паміж дзяўчатамі ў кабінеце начальніка цэха.

Пасля спрэчкі з Ленай Валянціна сказала сяброўкам:

— Няхай думае, што хоча, а нам даверылі сачыць за якасцю, мы і будзем сачыць.

Кантралёры злаваліся, спрачаліся, але комсамолкі дабіліся свайго. Паступова комсамольскі пост і кантралёры сталі працаваць дружна і зладжана. Цяпер справы пайшлі зусім па-іншаму.

...Абедзенны перапынак. Выключаны маторы. Сціх гул машын. За сталом, што стаіць у кутку цэха, сядзяць члены комсамольскага кантрольнага паста. Уважліва разглядаюць яны ўзятыя ў пяці работніц невялікія партыі панчох. Праверана адна, другая, трэцяя партыя. Браку няма. Але вось Надзежда Грачухіна падымае дрэнна закетляваную панчоху.

— Глядзіце, суцэльны пропуск!

— А вось другі, — гаворыць Ліда Барысенка.

— Хто-ж гэта? Чыя работа? — пытаецца Валянціна.

Грачухіна знайшла ярлык.

— Какойчанка! Зноў у яе брак. Колькі ні гавары, усё яна сваё... Трэба комсамольскі сход склікаць.

— І «Маланку» выпусціць. Няхай бракароба ўсе ведаюць, — падтрымала Грачухіну Ліда Барысенка.

Дзяўчаты зноў разглядаюць панчохі.

— А вось парэз. Гэта ўжо работа Элы Герасімавай. — Ліда Барысенка адкладае бракаваную панчоху ўбок.

— Дзіўна, у Элы і раптам — брак! Можа, ты пераблытала панчохі? — гаворыць Надзежда.

— Тут вінавата не Эла, а машына, — растлумачвае дзяўчатам Валянціна. — Нажы нізка апушчаны, наладчык не дагледзеў, — вось і атрымаўся брак.

Валянціна робіць у дзённіку кароткі запіс: «Выклікаць памочніка майстра Ігната Глядчанку. Адрэгуляваць рэжучую сістэму».

А пасля работы комсамольская група слухала Анну Какойчанка. Выступалі ўсе, абураліся, патрабавалі ад Анны больш уважліва адносіцца да работы.

— Спяшалася, — спрабавала апраўдацца Анна.

— Усе спяшаемся.

— Ты якасць давай!

— З-за цябе і нам сорамна.

Анна Какойчанка маўчала. Ды і што тут скажаш: дзяўчаты гавораць праўду.

«Ніколі больш не дапушчу браку», — падумала яна.

Але, бывала і так...

Аднойчы пост выявіў бракаваныя панчохі ў Галіны Нікіцінай.

— Ходзіце, правяраеце, а карысці ад гэтага ні на грош. Толькі працаваць перашкаджаеце, — накінулася на комсамольскі кантроль Галіна Нікіціна.

Дзяўчаты моцна пакрыўдзіліся, пайшлі і расказалі аб усім Любе Пашкоўскай, комсамольскаму групоргу.

— А гэта таму, — сказала Люба, — што дзяўчаты няправільна разумеюць вашы абавязкі. Не толькі вы, але і ўсе работніцы павінны ведаць, што дае нам барацьба за павышэнне гатунковасці. Трэба гутарку на такую тэму правесці.

Тэхнолаг цэха Анна Загорская расказала дзяўчатам, што азначае барацьба за эканомію і гатунковасць:

— Участак выпусціў першым гатункам 99,37 працэнта прадукцыі. Гэта ўсяго на 0,37 працэнта больш, чым прадугледжана па плану. Але і гэтая сотая доля працэнта дала нам прыбаўку ў 1 770 пар панчох і 1 300 пар наскоў першага гатунку. За лік павышэння якасці было сэканомлена больш адзінаццаці тысяч рублёў. Ды на эканоміі пашыўной ніткі нашы работніцы атрымалі магчымасць закетляваць дадаткова 221 930 пар панчох і наскоў.

Пасля гутаркі Галіна Нікіціна падышла да брыгадзіра Юзі Жаўняроўскай.

— Я стараюся, але не атрымоўваецца ў мяне. Вопыту, выходзіць, малавата. Навучы, калі ласка, як трэба хутка і добра надзяваць панчохі на токаль. Перад дзяўчатамі сорамна. У адной мяне брак знаходзяць.

Членам паста было прыемна, калі яны ўбачылі, што Галіна Нікіціна пачала вучыцца кетлёўцы панчох і ўжо больш не дапускала браку.

...Валянціна Аглушэвіч часта гаворыць:

— Работа наша творчая.

Работніцы з яе смяюцца.

— Якая там творчасць! Шукай брак і ўсё...

— А вось і не так. Хочаце, я вам прыклад прывяду.

Пры гэтым Валянціна прыпамінае такі выпадак.

Неяк яна зайшла ў магазін і пачула там такую размову:

— Вось табе і першы гатунак, а шво ў панчосе, як вяроўка, тоўстае.

Аб пачутай размове Валянціна расказала комсамольцам. Выклікалі памочніка майстра Ігната Глядчанку.

— Што зрабіць, каб палепшыць шво? — спыталіся ў яго дзяўчаты.

— Зрабіць можна, але работа вельмі складаная і вялікая. Усе машыны прыдзецца пераналаджваць.

— Ну і што-ж, зробім, — адказалі дзяўчаты. — Пасля змены пераналаджваць будзем.

Шэсць дзён працавалі комсамолкі, пераналадзілі ўсе машыны, затое зараз шво выходзіць, як і трэба — тонкае, акуратнае.

Быў і такі выпадак.

Заўважылі дзяўчаты, што пасля кетлёўкі на насках застаюцца вялікія поўпетлі.

— Нічога не зробіш. Тут не тое, што са швом — машыну не пераробіш, — гаварыла начальнік цэха.

Але дзяўчаты не здаваліся. Пайшлі да майстра Леаніда Лондана.

— Машыну і не трэба перарабляць, а вось ачышчальны апарат варта перакanструяваць, — выказаў думку майстар.

Доўга сядзелі рацыяналізатары, але ўсё-ж ачышчальны апарат перарабілі.

Цяпер у цэху справы наладзіліся, але бракаваныя панчохі ўсё-ж не перавяліся. Брак пачынаўся яшчэ ў вязальным цэху, адкуль паступалі поўфабрыкаты.

— А што, каб арганізаваць рэйды ў другія цэхі, праверыць работу тых, хто дае нам поўфабрыкаты! — сказала аднойчы Валянціна Аглушэвіч групоргу Любе Пашкоўскай.

— Гэта ты добра прыдумала, — падтрымала яе групорг.

Першы рэйд кантрольны пост зрабіў на ўчастку брыгадзіра Гольдзінай. Комсамолкі выявілі, што 5,2 працэнта нядобраякасна звязаных панчох не выявіў ні кантроль, ні брыгадзір. Аб выніках рэйда кантрольны пост далажыў групавому комсамольскаму сходу. Гэта быў шумлівы сход. Як ні горка было вязальшчыцам выслухоўваць папрокі кетлёўшчыц, але яны вымушаны былі прызнаць гэтыя папрокі справядлівымі.

Так нарадзілася ідэя аб стварэнні рэйдавых брыгад. Грамадскі кантроль пачаў працаваць ва ўсіх цэхах.

Кантрольны пост, які ўзначальвае Валянціна Аглушэвіч, вось ужо два гады працуе ў цэху. За гэты час тут адбыліся вялікія змены. Вырасла якасць прадукцыі. Больш эканомна і беражліва пачала выдаткоўвацца сыравіна. Толькі сёлета за кошт павышэння гатунковасці сэканомлена звыш ста тысяч рублёў. Каля трох мільёнаў пар панчох і наскоў закетлявана сэканомленымі ніткамі. У гэтай выдатнай перамозе ёсць доля вялікай і сур'ёзнай працы кантрольнага комсамольскага паста, якім кіруе Валянціна Аглушэвіч.

**г. Віцебск,**
**панчошна-трыкатажная фабрыка «КІМ».**

**Кіраўнік комсамольскага кантрольнага паста швейна-кецельнага цэха Валянціна Аглушэвіч на сходзе сваёй комсамольскай групы расказвае аб выніках работы кантрольнага паста.**





Група студэнтаў, членаў навуковага студэнцкага таварыства ў лабараторыі за даследчай работай (злева направа): Дзмітрый Кірыленка, Уладзімір Колб, Аляксандр Паўлюшчык, загадчык кафедры агульнай хіміі В. А. Бандарын і Аркадзь Чыж.

Фота А. Лукашова.

УЛ. МЕХАЎ

# Студэнцкае Навуковае Таварыства

Прозвішчы аўтараў гэтай манаграфіі шмат аб чым гавораць медыцынскай грамадскасці. На дэрмантыне вокладкі перад кожным з іх — доўгі тытул з пералічэннем навуковых ступеней і званняў...

Але той, хто чытае кнігу не з-за адной звычайнай цікавасці, звяртае ўвагу не толькі на прозвішчы аўтараў. Уважліва ён праглядае і вялікі спіс вучоных, даследаванні і артыкулы якіх былі выкарыстаны ў рабоце над манаграфіяй.

Спіс гэты змешчаны ў самым канцы кнігі і набраны дробным шрыфтам. Але трапіць у яго прыемна нават вядомаму прафесару або спецыялісту-практыку. Кожнаму радасна ўсведамляць, што і ён унёс пэўны ўклад у даследаванне, якое кідае прамень святла на яшчэ адну таямніцу прыроды.

Маргарыта Цвірко была тым больш шчаслівая, убачыўшы сваё імя ў манаграфіі прафесараў М. П. Чумакова, І. М. Прысмана і Т. С. Зацэпіна. Работа, якую неаднаразова называюць яны ў сваёй кнізе «Поліяміэліт», з'яўляецца яе першай спробай зрабіць практычныя вывады на падставе ўважлівых, старанных доследаў і выканана ёю ў студэнцкія гады.

... Студэнтка другога курса Мінскага медыцынскага інстытута, яна працавала тады ў навуковым гуртку па фізіка-калоіднай хіміі, якім кіраваў загадчык кафедры агульнай хіміі Вадзім Аляксандравіч Бандарын.

У складзе гуртка побач з учарашнімі вучнямі дзесяцігодкі можна было ўбачыць студэнтаў старэйшых курсаў — чацвертага, пятага, шостага. Агульную хімію яны слухаюць толькі на першым годзе навучання ў інстытуце. Але В. А. Бандарын умее прывіць студэнтам такую любоў да гэтай галіны ведаў, што яны прадаўжаюць займацца ёю ледзь не да дня атрымання дыплома.

Маргарыта Цвірко таксама займалася ў гуртку калоіднай хіміі ўсе гады вучобы. Яна не пакідала работы ў ім нават тады, калі старшакурсніцай уступіла дадаткова ў гурток пры кафедры нервовых хвароб. Яна прадаўжала свае даследаванні, пачатыя тут, і пасля заканчэння інстытута, займаючыся ў ардынатуры пры клініцы інфекцыйных хвароб.

Як і ўсіх гурткоўцаў, Вадзім Аляксандравіч зацікавіў яе тым, што прапанаваў даследаваць важную праблему медыцынскай практыкі, у неабходнасці вырашэння якой дзяўчына штодня магла пераканацца ў любой з клінік горада.

...Чалавека прывозяць у бальніцу з цяжкім нервовым захворваннем. Па даных толькі знешніх, або, як кажуць урачы, клінічных прыкметах, устанавіць дакладна дыягназ немагчыма. Прыкметы гэтыя блытаныя і супярэчлівыя. Патрэбны сур'ёзны лабараторны аналіз спінна-мазгавой вадкасці.

Гэта вадкасць — своеасаблівае люстэрка, якое адразу паказвае характар захворвання, калі яно — нервовага паходжання. Існуе многа спосабаў яе аналізу. Але большасць іх настолькі складаная, што ў звычайнай, не абсталяванай спецыяльна, лабараторыі карыстацца імі амаль немагчыма.

Вось, напрыклад, адзін з іх, вядомы ў практыцы пад назвай рэакцыі Ланге. Маргарыта Цвірко, якая па парадзе Вадзіма Аляксандравіча выпрабоўвала ўсе вядомыя рэакцыі са спінна-мазгавой вадкасцю, над гэтай рэакцыяй працавала асабліва доўга. Для яе правядзення патрабуецца дэфіцытны і дарагі рэактыў — калоіднае золата, якое перад ужываннем павінна прайсці даволі складаную апрацоўку. Трэба, акрамя таго, мець спецыяльную пасуду са шкла, прыгатаванага асаблівым чынам. Ды і сама тэхніка пастаноўкі гэтай рэакцыі складаная і нязручная.

Гэта-ж можна сказаць і пра іншыя спосабы. Аб якім шырокім ужыванні, скажам, масцічнай рэакцыі можа ісці гутарка, калі рэактыў для яе прыгатаўляецца са смалы фісташкавага дрэва!

Але калі Маргарыта дакладвала Вадзіму Аляксандравічу свае думкі наконт цяжкасці пры гэтых умовах лабараторнага вызначэння многіх нервовых хвароб, кіраўнік гуртка — разумны і ўмелы педагог — шчыра прызнаўся:

— Праўду кажучы, я і хацеў, каб вы прышлі да такога вываду. Цяпер вам зразумела, што наш з вамі абавязак у тым і заключаецца, каб палегчыць гэтую справу.

Пачаліся доўгія, крапатлівыя доследы, якія цягнуліся не тыдні і не месяцы, а гады...

Калі адзін з лепшых рэактываў пры даследаванні спінна-мазгавой вадкасці — фісташкавая смала, дык чаму-ж нельга выкарыстоўваць для гэтай мэты іншыя, больш танныя віды смол?.. І ў доўгія часы пасля лекцый і практычных заняткаў член студэнцкага навуковага гуртка Маргарыта Цвірко выпрабоўвае хімічныя якасці бурштына, каніфолі і іншых смол.

Не адразу прышоў поспех у рабоце. Нават бурштын — такі чулы і ўдзячны пры выкарыстанні ў іншых выпадках медыцынскай практыкі — у гэтым быў пасіўным і маўклівым, як звычайны камень.

І толькі сасновая каніфоль, якую лёгка знойдзеш у любой аптэцы, дала сапраўды цудадзейныя вынікі. Перад правядзеннем аналізу гэты рэактыў не патрабуе доўгай апрацоўкі асаблівым чынам. Спецыяльнай пасуды з незвычайнага шкла для яе таксама не трэба. А ў той-жа час «чытаецца» рэакцыя з ёю намнога выразней, чым з парафінам, масцікай, золатам або іншым рэактывам. Паміж урачамі ніколі не ўзнікае спрэчак, якога адцення стаў раствор — больш блізкі да вішнёвага ці да бэзавага. Характар захворвання чалавека лёгка вызначаецца колькасцю асадкаў на дне прабіркі.

На першай Усесаюзнай навуковай канферэнцыі студэнтаў медыцынскіх ВНУ работа Маргарыты Цвірко атрымала прэмію. Вынікамі яе даследавання шырока карыстаюцца цяпер у клініках Мінска і іншых гарадоў краіны. Група маскоўскіх прафесараў, якая выдала манаграфію аб поліяміэліце, рэкамендуе каніфольную рэакцыю як адзін з лепшых сродкаў пры вызначэнні гэтага цяжкага нервовага захворвання.

Работа, выкананая ў студэнцкім навуковым гуртку, аказалася каштоўным укладам у практыку самай перадавой у свеце совецкай медыцыны.

... Звыш тысячы юнакоў і дзяўчат працуюць у гуртках пры кафедрах і клініках Мінскага медыцынскага інстытута. Колькі сярод іх такіх-жа дапытлівых і настойлівых, як Маргарыта Цвірко! Дастаткова сказаць, што 22 даследаванні з прадстаўленых інстытутам толькі на апошні прагляд студэнцкіх навуковых работ, рэкамендаваны для надрукавання, як маючыя навуковае і практычнае значэнне.

Надзённыя, жыццёвыя пытанні бяруць студэнты тэмамі сваіх даследаванняў, і ў гэтым залог іх поспеху.

... Сёлетняй вясной у хірургічную клініку пры Мінскім аўтамабільным заводзе прывезлі для аперацыі хранічнага апендыцыта дзевятнаццацігадовую дзяўчыну. Калі яе прынеслі ў аперацыйную, у пакоі, акрамя хірурга і яго асістэнтаў, прысутнічалі яшчэ два юнакі, на тварах якіх можна было прачытаць, што яны хвалююцца, хоць і не хочуць гэтага паказаць.

Гэта былі Аляксандр Шот і Аляксандр Плавінскі — выпускнікі медыцынскага інстытута. Хворая была першым чалавекам, аперацыйная рана якой зашывалася вынайдзеным імі новым шоўным матэрыялам — бяз'ёдавым кетгутам.

Безумоўна, кіраўнік клінікі — загадчык кафедры інстытута прафесар П. Н. Маслаў дазволіў пачаць выкарыстанне бяз'ёдавага кетгута ў клінічных умовах толькі пасля таго, як шматлікія вопыты на жывёлах пераканаўча даказалі перавагі новага каштоўнага матэрыялу над тымі, якія вядомы былі раней. У самых маладых даследчыкаў таксама не было ніякіх сумненняў. Але ўсё-ж яны хваляваліся, бо ад выніку першай аперацыі дзяўчыны залежалі вынікі іх настойлівых пошукаў.

Цікавыя абставіны, пры якіх задумалі яны гэтае даследаванне. У час абароны кандыдацкай дысертацыі здольны малады хірург П. прывёў пераканаўчыя сведчанні таго, што ёд, якім прапітваецца кетгут для абясшкоджвання, выклікае ў месцы аперацыі ўнутры арганізма хваравітыя запаленні. Таму дысертант прапанаваў карыстацца пры аперацыі апендыцыта не ёдавым кетгутам, а стэрылізаванай шаўковай ніткай.

Па дарозе з паседжання вучонага совета, на якім абаранялася дысертацыя, Шот і Плавінскі разгаварыліся аб тым, што шоўк, па-сутнасці, таксама нязручны для ўжывання ў хірургіі. Справа ў тым, што ён адносіцца да той катэгорыі шоўных матэрыялаў, якія ў арганізме не рассасваюцца, як кетгут, які робіцца з баранніх кішак, а застаюцца іншародным целам на ўсё жыццё.

— Што ні кажы, а лепш кетгута нічога для зашывання пры ўнутраных аперацыях не знойдзеш,—задумліва прагаварыў Плавінскі.—От, каб не было толькі гэтай адмоўнай рэакцыі на ёд...

І вось у мінулым навучальным годзе яны вырашылі вынайсці такі кетгут, які-б захоўваў свае лепшыя якасці, але ў той-жа час не ўспрымаўся арганізмам хваравіта.

Расказваць аб іх працы — гэта значыць расказваць аб такой настойлівасці і працаздольнасці, якім можна толькі пазайздросціць. Нехапала часу днём (яны-ж былі студэнтамі апошняга курса інстытута!), і хлопцы працавалі па вечарах, начах, у нядзелю. Нехапала падвопытнай жывёлы, і яны збіралі ва ўсіх знаёмых сем'ях катоў. Сустракаліся непрадбачаныя замінкі, і яны пачыналі зноў і зноў перачытваць даўнейшыя і сучасныя медыцынскія даследаванні, падручнікі, манаграфіі, артыкулы.

... Зразумела таму, як хваляваліся сябры, калі, закончыўшы аперыраваць першую хворую, хірург узяў з рук асістэнта нітку светлага, пазбаўленага ёду, кетгута і пачаў зашываць рану. Некалькі дзён яны толькі тым і жылі, што разоў дзесяць на дзень распытвалі дзяжурнага ўрача аб стане здароўя і самаадчуванні незнаёмай ім дзяўчыны. Але ўсё закончылася як нельга лепш. Ніякіх запаленняў у месцы аперацыі не ўтварылася.

Гэтак-жа добра адчувалі сябе і наступныя хворыя, аперацыйныя раны якіх зашываліся бяз'ёдавым кетгутам.

Новы шоўны матэрыял паспяхова вытрымаў выпрабаванне!

... Адсюль, са студэнцкіх навуковых гурткоў, сотні юнакоў і дзяўчат пачынаюць свой шлях у навуку. І Маргарыта Цвірко, і Аляксандр Шот, і дзесяткі другіх колішніх актывістаў студэнцкага навуковага таварыства з'яўляюцца цяпер ужо аспірантамі і ардынатарамі пры кафедрах і клініках інстытута. Нязменны кіраўнік СНТ, адзін з самых шчырых сяброў студэнцкай моладзі прафесар Д. М. Голуб з гордасцю расказвае, што ўсе яны паклалі ў аснову сваіх дысертацый даследаванні, якія пачалі рабіць, яшчэ працуючы ў гуртках СНТ.

Цяперашнія студэнты не адстаюць ад сваіх старэйшых таварышаў. Калі на мінулай, дзесятай навуковай канферэнцыі студэнтаў было заслухана 40 дакладаў, то на адзінаццатай канферэнцыі, якая нядаўна адбылася, іх было ўжо 75. Зараз у гуртках пры кафедрах вядзецца 101 навукова-даследчая работа.

Пройдуць гады, і многія з сённешніх студэнтаў будуць мець свае кандыдацкія і доктарскія дыпломы, будуць мець свае манаграфіі, не менш салідныя, чым тая, у якой шчаслівая Маргарыта Цвірко ўбачыла адзначанай сваю работу. Але нават і тады яны з гордасцю будуць захоўваць скромныя кніжачкі членаў студэнцкага навуковага таварыства — сведчанне першых перамог на выдатным шляху ў навуку, сведчанне крылатых юнацкіх мар і высакародных імкненняў.

Георгій ШЧАРБАТАЎ

# ІХ КАЛІЧУЦЬ ПАЛІ...

Нарыс

Той, каму часта даводзілася бываць у Горках, з прыемнасцю заўважаў, як на беразе невялікай рэчкі Капылкі, у прыгожым ліпавым гаі, з кожным годам узнімаліся да сонца новыя карпусы Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. Старэйшая ў краіне вышэйшая сельскагаспадарчая ўстанова будуецца! На сотнях гектараў раскінулася яе гаспадарка — вучэбныя карпусы, бібліятэка, механічныя майстэрні, цяпліцы, двары для жывёлы, машынна-трактарны парк, электрастанцыя, а яшчэ далей — батанічны і дэндралагічны сады, паркі, вопытнае поле, геадэзічны палігон... і яшчэ якая-небудзь будыніна ў рыштаваннях... А то раптам узнікаюць перад табой новыя кветнікі!

Анатоль Чыж не быў тут амаль поўгода. Праходзіў практыку ў калгасе. Цяпер юнак хадзіў па алеях парка і радаваўся ўсяму новаму, што траплялася яму на вочы. Яшчэ вясною, калі ён ад'язджаў, быў у рыштаваннях Галоўны корпус акадэміі. Цяпер ён стаяў урачысты, прыгожы, і кожную гадзіну ў яго дзверы то ўлівалася, то вылівалася гаманкая і нястрымная плынь студэнтаў.

Ужо некалькі тыдняў ішлі заняткі. Нібы вялізны мурашнік, жыў акадэмічны гарадок. З корпуса ў корпус снавалі заклапочаныя студэнты. «Многа навічкоў», — падумаў Анатоль. У новым корпусе ён спыніўся каля адной са студэнцкіх насценных газет. Яго ўвагу прыцягнуў артыкул члена прыёмнай камісіі дацэнта Г. Бабічава. Студэнт з хваляваннем прачытаў гэты артыкул і даведаўся з яго, што сёлета быў небывалы ў гісторыі акадэміі конкурс пры паступленні на вучобу. На агранамічны, заатэхнічны, аграхімічны факультэты, на факультэты механізацыі сельскай гаспадаркі і плодагародніннага на адно месца было пададзена каля 16 заяў. Семдзесят працэнтаў з ліку ўсіх залічаных — дочкі і сыны калгаснікаў. З года ў год усё больш моладзі паступае ў акадэмію з заходніх абласцей рэспублікі. Вось і цяпер шэсцьдзесят два чалавекі — «заходнікі» — паспяхова вытрымалі экзамены і залічаны на вучобу.

«Пройдзе пяць год, — думае Анатоль пра гэтых першакурснікаў, — і яны паедуць у свае калгасы, каб вучыць сваіх землякоў культуры земляробства, узбройваць іх ведамі перадавой, савецкай агранамічнай навукі».

Яго думкі перапыняе вокліч:

— Прывітанне, Анатоль!

Ён азірнуўся і ўбачыў, што да яго падыходзіў высокі юнак з загарэлым тварам, на якім здалёк відаць шырокія чорныя бровы і сінія-сінія, нібы васількі, вочы. Гэта аднакурснік і сябра Анатоля, Антон Залескі. Анатоль з радасцю падае яму руку:

— Прывітанне, Антон! З прыездам!

— Што ты тут цікавага знайшоў? —ківае галавой у бок газеты Залескі.

— А вось паглядзі, які наплыў быў! — з гордасцю ўсклікае Чыж.

— Ну, гэта яшчэ да пастановы пленума было, — адказвае Антон. — Уяўляю сабе, што будзе ў наступным годзе!

— Так, моладзь дапаможа партыі ўзняць сельскую гаспадарку.

Яны ішлі і размаўлялі аб тым, што акадэміі трэба пашырыць сваю вучэбную плошчу, што марудна будуецца інтэрнат для студэнтаў, што ў акадэміі павінны быць усе навейшыя сельскагаспадарчыя машыны і прылады. Бо што-ж гэта будуць за спецыялісты, якія не ведаюць новых марак машын!

Ніжэйшы ростам за свайго сябра, але шырокаплечы, прысадзісты, Анатоль Чыж кідае позірк на Антона і пытаецца:

— Як твая сарадэла?

— А як твой лубін?

І яны абодва смяюцца. Старонняму чалавеку могуць здацца незразумелымі гэтыя пытанні. Сябры-ж разумеюць адзін другога з поўслова. Справа ў тым, што Антон Залескі ўжо некалькі год займаецца вывучэннем уплыву пакроўных культур на ўраджай сарадэлы. Летась ён на ўсё лета застаўся ў акадэміі і ў лабараторных кафедрах агульнага земляробства праводзіў рознастайныя доследы. Сёлета ў час практыкі ён праводзіў доследы на тэрыторыі Маладзечанскай МТС. Там усю вясну і лета працаваў аграномам.

Хлопец з радасцю расказаў аб сваіх назіраннях.

Анатоль таксама хацеў расказаць сябру аб сваёй практыцы, аб навуковай працы на тэму «Уплыў заворвання лубіну на зялёнае ўгнаенне пад яравую пшаніцу». І ён сказаў:

— Зойдзем ў інтэрнат, я табе цэлы даклад зраблю.

І вось Анатоль Чыж сядзіць за сталом, перад ім ляжыць «Дзённік практыканта» і спецыяльны «Палявы журнал», а па задумлівых шэрых вачах яго відаць, што думкі яго недзе там, у калгасе імя Будзённага Крычаўскага раёна. І сапраўды, студэнт, заўтрашні агроном, успамінае...

Бацька яго, былы настаўнік, не вярнуўся з вайны, загінуў у баях за Радзіму. Толя застаўся жыць са старой маці. Хлопец кожны дзень хадзіў на працу ў калгас і хутка вызначыўся як руплівы і дбайны гаспадар. Нехта аднойчы сказаў старшыні:

— Трэба паўлавага сына паставіць за брыгадзіра. Старанны хлопец расце!

І сапраўды, на агульным калгасным сходзе Анатоля Чыжа выбралі брыгадзірам першай паляводчай брыгады. Малады кіраўнік не разгубіўся. З усёй энергіяй ён узяўся за работу. Але хутка юнак пераканаўся, што, каб добра весці гаспадарку, дабівацца высокіх ураджаяў, — мала нават самаадданай працы. Патрэбны веды. Ён паступае ў Батвінаўскую сярэднюю школу. Два гады Анатоль працаваў брыгадзірам і адначасова вучыўся. А калі закончыў дзесяты клас, старшыня калгаса Мікалай Сцяпанавіч Сапега сказаў яму:

— Ведаеш што, Анатоль Паўлавіч, паступай ты ў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію. Патрэбен нам свой агроном у калгасе.

Аб тым-жа думаў і сам Анатоль, і цяпер радаваўся, што яго падтрымаў старшыня, аўтарытэтны сярод калгаснікаў чалавек, кіраўнік калгаса з пачатку яго арганізацыі.

Мінула чатыры гады. І вось сёлета Анатоль Чыж прыехаў у родны калгас маладым аграномам-практыкантам.

Ішла вясна, будзёнаўцы рыхтаваліся да сяўбы. Анатоль Чыж адразу ўключыўся ў работу. Пабываў у свірнах і паглядзеў, як рыхтуецца да сяўбы насенне, пабываў у калгасных кавалёў, нараіў зрабіць яго яравізацыю; паведаў МТС. Да яго голасу ўсюды прыслухоўваліся. Гэта радавала і падбадзёрвала маладога агранома.

Аднойчы на кватэру да Анатоля зайшоў старшыня калгаса. Грузны, пажылы чалавек, з сівізною на скронях, Мікалай Сцяпанавіч сеў за стол і разгарнуў нейкія паперы:

— Паглядзі, Паўлавіч, мне нешта не падабаецца гэты план.

Чыж пачаў уважліва разглядаць паперы. Гэта была пераходная табліца севазваротаў.

— Хто гэта вам даў? — нахмурыўшыся, спытаў Анатоль.

— З райза прыслалі.

— Ды гэта-ж парушэнне элементарных правілаў земляробства, — бліснуў шэрымі вачыма Анатоль і пачаў расказваць, як непрадумана, без уліку магчымасцей калгаса была складзена табліца. Старшыня слухаў і ў думках радаваўся: «Нездарма чатыры гады прасядзеў у акадэміі! Малайчына!»

Анатолю Чыжу давялося ўзяцца за складанне новай пераходнай табліцы севазвароту. Малады агроном перабудаваў яе з улікам дзяржаўнага планавага задання, павышэння ўраджайнасці палёў і павелічэння кармавой базы. Былі ўлічаны і мясцовыя ўмовы. Усе калгаснікі згадзіліся з новай схемай, бо ўбачылі, што яна дае калгасу магчымасць высяваць культуры па лепшых папярэдніках, прытрымлівацца правілаў агранамічнай навукі.

Калі пачалася сяўба, студэнт выбраў тры ўчасткі для сваіх доследаў. Усе дзялянкі былі па 0,12 гектара. На першай ён пасеяў пшаніцу па бульбянішчу, на другой — пасля азімага жыта і на трэцяй — пасля лубіну на ўгнаенне. Умовы догляду былі на ўсіх трох участках аднолькавыя. З літаратуры ды і з уласнага вопыту ён ведаў, што лубін узбагачае глебу спажыўнымі вяшчэствамі, паляпшае яе структуру, а значыць, павышае ўраджайнасць збожжавых культур. «Асабліва



На кафедры рамонту і эксплуатацыі машынна-трактарнага парка каля стэнда выпрабоўкі электрычнага абсталявання трактараў і аўтамабіляў. Злева направа: загадчык кафедры дацэнт Н. В. Васільеў, студэнты V курса факультэта механізацыі камсамольцы А. Петрашоў, М. Раўняга і А. Макарэнка.

**На занятках па жывёлагадоўлі. Заняткі вядзе кандыдат сельскагаспадарчых навук Е. І. Лапаева.**



гэта важна на нашых пясчаных глебах», — думаў Анатоль. Трэба было на справе даказаць аднавяскоўцам вялікую сілу лубіну як угнаення. Адначасова на адным са сходаў ён дабіўся, каб калгас пры плане ў 17 гектараў пасеяў 100 гектараў лубіну на ўгнаенне.

Агранома-практыканта можна было ўбачыць усюды. З усходам сонца ён быў ужо на полі. Вось ён спыніўся каля агароднікаў і незадаволена паморшчыўся. Градкі, падрыхтаваныя для пасадкі гароднiны, былі завужаны. Анатоль узяў граблі, сам разбіў участак, растлумачыў перавагу шырокіх градак. Калгасніцы спачатку засароміліся, потым шчыра падзякавалі аграному.

Здалёк далятаў гул трактара, і Чыж накіраваўся туды. Лёгка і радасна было ісці па вясноваму полю. У высокім блакіце заліваліся жаўранкі, а скрозь, у бяскрайніх прасторах, стаяў працоўны гоман калгаснікаў. Сеялі пшаніцу, рыхтавалі глебу пад грэчку і бульбу. Анатоль спыніўся недалёка ад трактара і памераў глыбіню ворыва. Мелка аруць... Ён прыгледзеўся да ўсёй узаранай плошчы і заўважыў на ёй многа агрэхаў. Гэта разззлавала агранома. Ён падбег да трактарыста і крыкнуў:

— Не прымаю работу!

Трактарыст, малады хлапец, затармазіў машыну і абыякава спытаў:

— Як гэта не прымаеш?

— А вельмі проста: трэба добрасумленна працаваць, а не драмаць за рулём. Пераары! — І пайшоў далей.

Яго спаткаў дырэктар школы Іван Фёдаравіч Чаркасаў.

— Зайдзі да нас, Анатоль Паўлавіч.

Не так даўно Чыж закончыў гэтую школу, уступіў тут у камсамол. Усё тут яму было блізкім і дарагім. Настаўніца біялогіі Надзежда Нікадзімаўна папрасіла яго скласці схему севазваротаў на прышкольным участку. Анатоль з задавальненнем дапамог школе, склаў схему двух севазваротаў — палявога і травапольнага, перадаў школе некалькі зярнят галіністай пшаніцы, якія прывёз з акадэміі, параіў настаўніцы, як лепш яе даглядаць.

Так у працы, у барацьбе за высокія ўраджаі праходзілі дні камсамольца-агранома. Ён і не заўважыў, як прайшло гарачае лета, як настала багатая калгасная восень. Радавалі Анатоля гэтыя дні. Радавалі таму, што нездарма ён аддаў столькі старання і працы калгасным палям. Ураджаі іх былі амаль у тры разы вышэйшымі, чым у 1951 годзе. Цікавыя вынікі атрымаў ён і на сваіх даследчых участках. З бульбянішча ён атрымаў 14,1 цэнтнера пшаніцы (у пераводзе на адзін гектар), з-пад азімага жыта — 16 цэнтнераў і з лубінавага ўчастка — 20 цэнтнераў. У «Палявым журнале» агранома з'явіўся запіс: «Сяўба лубіну на ўгнаенне дае вялікі эфект. Як паказвае вопыт, лепшы ўраджай яравой пшаніцы атрыманы пры заворванні лубіну на ўгнаенне з унясеннем фасфарытнай мукі пад сяўбу лубіну. У калгасе знаходзіць усё больш шырокае прымяненне сяўба лубіну на зялёнае ўгнаенне. Улічваючы пясчанасць глебы, гэта дае выдатны вынік. Мясцовыя вопыты трэба прымяняць больш актыўна і шырэй, каб павысіць эфектыўнасць выкарыстання такіх угнаенняў. Трэба меркаваць, што лубін у спалучэнні з другімі фактарамі агратэхнікі пракладзе шлях устойлівым ураджаям у калгасах».

Цёплым было развітанне Анатоля са сваімі землякамі. Мікалай Сцяпанавіч Сапега прынёс яму характарыстыку. У ёй было напісана: «Таварыш Чыж паказаў сябе як добра падрыхтаваны спецыяліст, які выдатна разбіраецца ў пытаннях вядзення сельскай гаспадаркі. З'яўляецца добрым прапагандыстам і арганізатарам. Поўнасцю варты высокага звання савецкага агранома».

І вось ён сядзіць перад сваімі таварышамі па акадэміі і гаворыць:

— Пастанова вераснёўскага пленума ЦК партыі — наш непахісны закон. Партыя вызначыла шляхі, па якіх павінна ісці ўгору сельская гаспадарка. Ажыццяўляць гэты закон — наш пярвейшы абавязак. Нас клічуць палі, таварышы!

Знешне іх не адрозніш — механізатараў ад аграномаў, заатэхнікаў ад інжынераў-гідратэхнікаў, інжынераў-землеўпарадкавальнікаў ад эканамістаў і планавікоў. Але паспрабуй загаварыць аб пастанове вераснёўскага пленума ЦК Комуністычнай партыі, як адразу зразумееш іх будучую прафесію. Першымі ў такіх выпадках выступаюць механізатары.

— Галоўная сіла ва ўздыме сельскай гаспадаркі, — гавораць яны, — гэта машынна-трактарныя станцыі. — І ўжо ў жарт дадаюць: — Кланяйцеся нам, механізатарам!

Студэнты ведаюць з пастановы, што галоўнае месца ва ўздыме сельскай гаспадаркі партыя адводзіць сапраўды машынна-трактарным станцыям, але не хочуць здаваць пяршынства сваім калегам. У такіх выпадках разгараецца гарачая спрэчка, у якой прадстаўнік кожнага факультэта даказвае вялікую ролю сваёй спецыяльнасці ў сельскай гаспадарцы.

Іменна на такую спрэчку я і натрапіў у пакоі № 11 студэнцкага інтэрната. Тут было многа студэнтаў, і адзін з іх, з высокай капой каштанавых валасоў, з блакітнымі вачыма і прамым прыгожым носам, штосьці горача расказваў сваім сябрам пра машыны. Я спытаў пра студэнта факультэта механізацыі Віктара Васпукова, і тады той, што гаварыў, падняўся з табурэткі і, падміргнуўшы таварышам, нібы заканчваючы свае довады вельмі важкім аргументам, сказаў:

— Вось бачыце, да нас нават карэспандэнты едуць!

Я пазнаёміўся з сакратаром комсамольскай арганізацыі чацвертага курса факультэта механізацыі Віктарам Васпуковым. У яго прыемныя, мяккія, зусім дзявочыя рысы твару і гэткі-ж прыемны голас. Юнак карыстаецца вялікім аўтарытэтам сярод студэнтаў. Адзін час ён быў рэдактарам факультэцкай насценнай сатырычнай газеты «Наш кракадзіл» і стаў вядомы сваімі вострымі вершаванымі радкамі аб тых ці іншых недахопах у жыцці акадэміі. Яго так тут і называюць «Наш паэт». І сапраўды, Віктар знаходзіць час і на вучобу (вучыцца ён на «выдатна»), і на пісанне вершаў, і на ўдзел у вечарах студэнцкай самадзейнасці, і на канструяванне бульбапасадачнай машыны.

Аднойчы Віктар Васпукоў разам са сваім сябрам Мікалаем Лапуховым былі на практыцы ў калгасе. Якраз ішла пасадка бульбы, і будучыя механізатары яшчэ раз пераканаліся ў працаёмкасці гэтай работы. Яны задумаліся: а што, калі паспрабаваць свае сілы — сканструяваць бульбапасадачную машыну для квадратна-гнездавой пасадкі? Як толькі хлопцы вярнуліся ў акадэмію, яны адразу заселі за тэхнічную літаратуру. Вывучылі ўсё, што было сказана аб ужо існуючых бульбапасадачных машынах. Потым заселі за чарцяжы. Некалькі дзён яны рабілі разлікі, чарцілі, бракавалі сваю працу і пачыналі ўсё спачатку. Калі, нарэшце, чарцёж быў гатовы, яны з хваляваннем пайшлі да кіраўніка студэнцкага навуковага таварыства, загадчыка кафедры сельскагаспадарчых машын прафесара А. Б. Трэйваса. Вядомы вучоны з цікавасцю паставіўся да працы студэнтаў.

— Добрая задума, — сказаў ён. — Будуйце мадэль.

У механічнай майстэрні закіпела работа. Студэнты тачылі і кавалі дэталі, падганялі іх з вялікай стараннасцю. Мадэль хутка была зроблена, і сябры, узрушаныя, нібы імяніннікі, запрасілі прафесара А. Б. Трэйваса на яе выпрабаванне. Выпрабаванне праходзіла на доследным полі акадэміі. Прафесар з задавальненнем глядзеў на работу машыны, але вопытным вокам заўважыў і яе недахопы.

— Ідэя і асноўныя прынцыпы пабудовы машыны правільныя, — сказаў ён. — Трэба яшчэ падумаць аб хуткасцях высяваючага апарата.

Першая няўдача не спыніла творчых пошукаў будучых механізатараў. Яны яшчэ з большай напорыстасцю шукаюць удалага вырашэння сваёй задумы. Цяпер маладыя канструктары будуюць новую мадэль машыны.

— Падрыхтаваць не толькі добрых тэарэтыкаў, але і практыкаў механізацыі сельскай гаспадаркі — такая задача нашага факультэта, — гаворыць А. Б. Трэйвас.

І сапраўды, тут усё робіцца для таго, каб студэнты глыбока авалодалі самымі рознастайнымі механізмамі. Кафедры абсталяваны добра: тут можна ўбачыць і трактары, і камбайны, і ільнакамбайны, і сеялкі, і трыеры, і аўтамашыны.

У механічных майстэрнях абсталяваны рознастайнымі станкамі механічны, кавальскі, слясарны, ліцейны, дрэваапрацоўчы цэхі, цэхі электразваркі і газавай зваркі. Многае тут робіцца рукамі саміх студэнтаў. Загадчык кафедры сельскагаспадарчых машын паказвае нам мадэлі зернепуля, сартыровачнай горкі, сартыровачнага рэшата, зробленыя рукамі студэнтаў пад кіраўніцтвам выкладчыкаў. Студэнты вучацца

вадзіць аўтамашыны, трактары, камбайны, і ўжо на чацвертым курсе атрымоўваюць правы шафёра трэцяга класа. Кафедра працуе над стварэннем «Пнеўматычнай сушылкі павышанай вытворчасці». Тэхнічны совет Міністэрства сельскай гаспадаркі і нарыхтовак БССР адобрыў праект гэтай сушылкі.

І так — на кожным факультэце. Кафедры раслінаводства, агульнага земляробства, фізіялогіі раслін, селекцыі, батанікі агранамічнага факультэта вядуць навуковую работу па павышэнню ўраджайнасці сельскагаспадарчых культур.

Няцяжка знайсці ў новым корпусе кабінет раслінаводства. Яшчэ на калідоры звяртаеш увагу на шматлікія стэнды, што стаяць уздоўж сцен, з узорамі рознастайных збожжавых і тэхнічных культур нашай рэспублікі і ўсяго Совецкага Саюза. Кабінет таксама запоўнены гэтымі ўзорамі. Загадчык кафедры, дацэнт І. М. Піуноўскі, чалавек з прыемным адкрытым тварам, шэрымі выразнымі вачыма і сівізной на скронях, ветліва сустракае вас і пачынае расказваць аб працы кафедры.

— Многа разоў перачытваў я рашэнні партыі па сельскай гаспадарцы і знаходзіў у іх усё новае і новае для сваёй работы. Нібы работнікі ЦК былі ў нас і вывучылі нашу работу і жыццё. — Шэрыя вочы яго ўсміхаюцца добрай усмешкай, і ён дадае: — Ды і не адны мы так думаем. Калгаснікі раёна таксама гавораць, што ў іх калгасах пабывалі сакратары ЦК нашай партыі і вывучылі глыбока справы сельскай гаспадаркі. Што-ж, гэта добрыя чуткі!

Загадчык кафедры расказвае, што галоўнай задачай акадэміі з'яўляецца выпуск высокакваліфікаваных спецыялістаў, якія неслі-б агранамічную навуку ў калгасы, з'яўляліся добрымі арганізатарамі калгаснай вытворчасці. Што робіць для гэтага кафедра раслінаводства?

— Мы ставім перад студэнтамі практычныя задачы. Скажам, чаму яравізацыя збожжавых лепш за неяравізацыю? Чаму лепш ранняя сяўба? Гэтыя пытанні даследуюцца на доследным полі акадэміі. Студэнт, будучы аграном, навочна бачыць перавагі навуковага вядзення гаспадаркі, і, бясспрэчна, ён адразу пачне ўкараняць іх у вытворчасць, як толькі скончыць акадэмію.

На раённай сельскагаспадарчай выстаўцы, якая размясцілася ў самай вялікай аудыторыі акадэміі, было прадстаўлена дзесяць студэнцкіх работ аб квадратна-гнездавой пасадцы гародніны. Мы пазнаёміліся з загадчыкам пладова-гароднінняй кафедры кандыдатам сельскагаспадарчых навук А. М. Іпацьевым. Цяжка падумаць, што гэты чалавек займаецца таматамі! Высокі, магутна складзены, ён больш падобны на прафесіянала-сілача. Але калі Аляксандр Мікалаевіч з нейкім асаблівым захапленнем пачаў апавядаць пра вывядзенне новых гатункаў таматаў, мы падумалі аб тым, што ў яго, мабыць, пяшчотная душа і тонкі даследчы розум. На кафедры працуе мічурынскі гуртак, якім кіруе студэнтка пятага курса Святлана Лаўрык. Удзельнікі гуртка вывучаюць розныя метады вырошчвання гародніны, пад кіраўніцтвам педагогаў Ф. А. Цімашкова і Н. М. Завадскага праводзяць скрыжаванні садовых дрэў, памідораў з бульбай, таматаў. Студэнтка пятага курса Алена Каленька два гады праводзіла доследы па квадратна-гнездавой пасадцы гародніны. Дасягнуты цікавыя вынікі. Кафедра пад кіраўніцтвам А. М. Іпацьева вывела два гатункі таматаў: «Горацкі хуткаспелы» — адзін з самых ранніх у свеце, — і «Горацкі гібрыд», які дае вялікія добрыя плады.

Пагутарце з загадчыкам любой кафедры, з прарэктарам па навучальнай частцы кандыдатам тэхнічных навук Б. Г. Турбіным і ўсюды вам скажуць:

— Пастанова вераснёўскага пленума прымусіла нас глыбей заняцца пытаннем падрыхтоўкі спецыялістаў сельскай гаспадаркі.

Акадэмія перабудоўвае вучэбную работу, пераглядае праграмы з тым, каб вызваліць студэнтаў ад лішняй нагрузкі і даць ім больш самастойнасці.

Ініцыятыва студэнтаў заахвочваецца. Сёлета пачаў выдавацца друкаваны «Зборнік студэнцкіх навукова-даследчых работ». У першым выпуску «Зборніка» можна прачытаць такія цікавыя работы, як «Вынікі вопытаў гнездавой сяўбы салата, радыса, буракоў, морквы» студэнтак В. Акулінскай, Н. Жукавай і Н. Пляхоткінай; як «Новы спосаб вырошчвання пасадачнага матэрыялу вінаграда ва ўмовах Беларусі» Н. Мельніка; як «Вырошчванне падвоеў у БССР» Н. Зіноўева і іншыя.

Акадэмія часта праводзіць навуковыя студэнцкія канферэнцыі, на якіх студэнты выступаюць з дакладамі, з рэфератамі аб сваіх навуковых доследах. Лепшыя навукова-даследчыя гурткі адзначаюцца ў насценным друку, вопыт іх работы шырока папулярызуецца.

Партыйныя арганізацыі і камітэт комсамола многа аддаюць увагі ідэйнаму выхаванню студэнтаў.

— Спецыяліст калгаснай сельскай гаспадаркі павінен быць высокаідэйным чалавекам, — гаворыць сакратар камітэта ЛКСМБ акадэміі В. К. Кільчэўскі. І камітэт комсамола арганізуе рознастайную палітычную работу сярод студэнтаў, 2 632 з якіх — комсамольцы. Праводзяцца тэарэтычныя канферэнцыі па працах класікаў марксізма-ленінізма, вывучаюцца пастановы партыі і ўрада. Добра працуе лекторый выхоснага дня. Многія студэнты выступаюць з дакладамі на рознастайныя тэмы ў калгасах раёна. Комсамольская арганізацыя дапамагае 12 калгасным комсамольскім арганізацыям у наладжванні работы. Кожны месяц у калгасы выязджаюць канцэртныя брыгады комсамольцаў. У акадэміі праводзілася сустрэча студэнтаў з лепшымі старшынямі калгасаў рэспублікі.


Спектакль «Позняе каханне» ў пастаноўцы самадзейнага драматычнага калектыва. Заключная сцэна. Ролі выконваюць (злева направа): Нікалая Шаблава — студэнт IV курса аграхімічнага факультэта Леанід Калантаеў, Людмілы — выкладчыца, кандыдат сельскагаспадарчых навук А. Я. Ляскова, Маргарытава — студэнт III курса гідрамеліяратыўнага факультэта Якаў Абіндэр, Лябёдкінай — студэнтка IV курса пладагароднінняга факультэта Святлана Лаўрык, Шаблавай — мастацкі кіраўнік калектыва Т. В. Бальшакова, Дармідонта — студэнт II курса заатэхнічнага факультэта Міхась Конча.


Студэнт V курса аграфака Антон Залескі рыхтуе дыпломную работу.

Не заціхае жыццё акадэміі і з наступленнем вечара. Святлана Лаўрык бяжыць на рэпетыцыю п'есы А. Астроўскага «Позняе каханне». Яна тут выконвае адну з асноўных ролей — ролю Варвары Лябёдкінай. Святлана не першы раз выступае ў тэатральных пастаноўках. Драматычны калектыў акадэміі паставіў «Юнацтва бацькоў» Б. Гарбатава, «Рускае пытанне» К. Сіманава і другія п'есы, у якіх удзельнічала і Святлана. Але цяпер рыхтуецца агляд мастацкай самадзейнасці акадэміі. Трэба добра падрыхтавацца да яго, і дзяўчына хвалюецца.

У другія пакоі спяшаюцца спевакі, танцоры, удзельнікі струннага, духавога і эстраднага аркестраў, дэкламатары... Усяго больш тысячы студэнтаў рыхтуюцца да паказу мастацкай самадзейнасці.

Дзе-небудзь у кутку чытальнай залы бібліятэкі садзіцца Віктар Васпукоў. Літаратурнае аб'яднанне акадэміі абвясціла літаратурны конкурс на лепшы мастацкі твор — апавяданне, нарыс, аднаактавую п'есу, фельетон, верш, байку, тэкст песні і частушак. Віктар Васпукоў працуе над вершам «Мы славім партыю», каб ад імя шчаслівай совецкай моладзі выказаць роднай Комуністычнай партыі сваю бязмежную ўдзячнасць і бясконцую любоў за яе клопаты аб совецкім народзе.

Роля Беларускай ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга сельскагаспадарчай акадэміі ўзрастае з кожным днём. Тры тысячы студэнтаў і больш сотні выкладчыкаў гэта вельмі добра разумеюць. Калектыў акадэміі асабліва натхнілі рашэнні вераснёўскага пленума ЦК Комуністычнай партыі. І студэнты, і выкладчыкі ўбачылі перад сабой задачы вялікай адказнасці і інакш паглядзелі на сваю ўстанову. Яны зразумелі, што падрыхтоўка спецыялістаў сельскай гаспадаркі — адна з важнейшых задач нашай дзяржавы.

У акадэміі працуе вялікі калектыў відных вучоных нашай рэспублікі. Гэта — прафесары, доктары навук Н. М. Замяцін, А. Г. Мядзведзеў, А. Б. Трэйвас, Ю. Л. Паморскі, дацэнты, кандыдаты навук І. Ф. Гаркуша, А. М. Іпацьеў, Р. Т. Вільдфлуш, Ф. К. Курапаценка, М. А. Дырэктарэнка, К. І. Наумаў, А. І. Новік, Г. Т. Бабічаў і многія другія. Нядаўна вялікая група навуковых супрацоўнікаў акадэміі была ўзнагароджана ордэнамі і медалямі Совецкага Саюза.

Акадэмія стала цэнтрам перападрыхтоўкі сельскагаспадарчых кадраў рэспублікі. Пасля вайны розныя курсы тут закончылі 805 старшынь калгасаў, 514 калгасных брыгадзіраў, 201 аграном, 280 старшых механікаў МТС, 301 дырэктар МТС. Многія старшыні калгасаў пасля заканчэння вучобы пры акадэміі атрымалі званне малодшых аграномаў.

З кожным годам павялічваецца выпуск студэнтаў васьмі факультэтаў акадэміі. Калі ў 1946 годзе яе закончылі толькі 9 чалавек, то ўжо ў 1951 годзе — 273 чалавекі, у 1953 годзе — 290 чалавек, а вясной будучага года акадэмія выпусціць звыш 350 спецыялістаў сельскай гаспадаркі. Набор на першы курс у будучым годзе ўзрастае да тысячы чалавек.

Так жыве буйнейшая навучальная сельскагаспадарчая ўстанова рэспублікі. Вялікія яе перспектывы!



**Многія студэнты Беларускай ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга сельскагаспадарчай акадэміі займаюцца ў гуртках навукова-тэхнічнага таварыства і вядуць даследаванні ў галіне вывядзення новых гатункаў сельскагаспадарчых культур.** На здымку: **у цяпліцы кафедры селекцыі і насенневодства. Студэнты агранамічнага факультэта комсамольцы Ліда Мініна і Пётр Курчыжкін** (крайні справа) **пад кіраўніцтвам загадчыка кафедры Н. М. Завадскага вядуць назіранні за развіццём таматаў, прывітых на бульбе.**

Фота А. Дзітлава.




**Група комсамольцаў-інжынераў аддзела галоўнага канструктара Мінскага мота-велазавода абмяркоўваюць чарговую рацыяналізатарскую прапанову, якая ўнесена тэхнікам рамна-зварачнага цэха комсамольцам Пятром Лапцевым.** На здымку (злева направа): **інжынер-канструктар Анатоль Нікалаеў, Пётр Лапцеў, начальнік канструктарскага бюро па веласіпедах Васіль Конічаў, інжынеры-канструктары Сяргей Арцёмкін і Сямён Айзенштэйн.**

Фота А. Дзітлава.

А. ШАРАПАЎ

# КАНСТРУКТАРЫ АГРЭГАТАЎ

Дзяўчына схілілася над чарцёжнай дошкай. Праменні сонца прабіваюцца праз галіны дрэў, што растуць за акном, і падаюць на светлыя валасы дзяўчыны, нібы пераносячы на іх сваю пазалоту.

Пад павевамі ветру галіны гойдаюцца, дрыжаць, кідаючы на чарцёж узорчатыя трапяткія цені. Але дзяўчына не заўважае гэтага. Яна напружана ўглядаецца. Перад яе вачыма ўзнікаюць гатовыя дэталі машыны.

«Няўжо і на гэты раз выявяцца якія-небудзь непаладкі?»

Напарнік дзяўчыны канструктар Грынблат вось ужо тры дні як паехаў у Падольск, дзе трэці раз будзе выпрабоўвацца сканструяваны імі сіласаразгрузчык-трамбоўшчык.

На папярэдніх выпрабаваннях галоўны канструктар Спецыяльнага канструктарскага бюро «Гомсельмаша» Грыгорый Максімавіч Кацюбанаў даў машыне добрую ацэнку.

— Хоць гэта і першая ваша работа, — сказаў ён маладым канструктарам, — але агрэгат для абслугоўвання жывёлагадоўлі вы стварылі выдатны. Колькі рабочай сілы вызваліць ён! Сілас з вежаў і да гэтага часу разгружаюць віламі. Трамбоўка пры загрузцы сіласных вежаў таксама ўручную вядзецца. А зараз усё гэта будзе рабіць машына. Дзякуй скажуць «Гомсельмашу» калгаснікі за такі агрэгат.

Дзяўчыне прыемна ўспомніць гэтую размову. І ёй яшчэ больш хочацца, каб дзяржаўнае выпрабаванне машыны прайшло добра.

На хвіліну яна ўяўляе машыну ў сіласнай вежы. Вось рушылі ў свой бясконцы шлях па кругу размешчаныя ў ніжняй частцы чарцяжа дыскі-нажы. Яны зрэзваюць слой сіласнай масы і падкідваюць яе да элеватара, які ўбірае разрыхленую масу ў сябе і, падняўшы, выкідвае яе на транспарцёр... Гэта працуе сіласаразгрузчык. Але вось машыну перанеслі ў другую вежу. Зроблена замена рабочых частак — замест нажоў па кругу рухаюцца каткі. Калі раней машына пагружалася, цяпер яна падымаецца ў вежы, утрамбоўваючы пад сабой загружаны сілас... Гэта ўжо сіласатрамбоўшчык.

У тэматычным плане завода такой машыны не было. Яе прыдумалі маладыя канструктары ў працэсе работы над сіласаразгрузчыкам.

Ціха бывае ў ранішнія гадзіны ў зале Спецыяльнага канструктарскага бюро, або, як прывыклі называць яго — СКБ. Асляпляюча белай здаецца зала ад мноства чарцёжных установак. Бязгучна рухаюцца па чарцёжных дошках механічныя рэйсшыны, пакідаючы на ватмане ўвасобленыя ў строгіх контурах замыслы канструктараў.

Размясціўшыся непадалёку ад уваходу, за асобным сталом, намеснік начальніка СКБ Павел Лаўрэнцьевіч Сімакоў праглядае ранішнюю пошту. Пісьмы, якія прыходзяць сюды з усіх канцоў краіны, нібы пацвярджаюць, што Спецыяльнае канструктарскае бюро пры заводзе «Гомсельмаш» мае ўсесаюзнае значэнне.

Чытаючы пісьмо, прысланае з Сонечнагорска, Павел Лаўрэнцьевіч чамусьці ўсміхнуўся. Ад гэтай усмешкі па яго хударлявым твары разбегліся маршчынкі. «...Высокую ацэнку атрымаў выпрабоўваемы на Цэнтральнай машынавыпрабавальнай станцыі транспарцёр-раскідальнік угнаенняў «ТУР-7». Пісьмо гэтае Павел Лаўрэнцьевіч абавязкова пакажа Георгію Трафімуку, які ўзначальваў групу канструктараў, што працавалі над гэтым транспарцёрам.

У другім пісьме калгаснікі, якія прысутнічалі пры выпрабаванні перасоўнай даільнай устаноўкі, просяць паскорыць вытворчасць яе з тым, каб к вясне ўжо можна было атрымаць яе з завода.

Сімакоў задаволена ківае галавой: даільная ўстаноўка ўжо здадзена ў вытворчасць.

Пасля пастановы верасьнёўскага Пленума ЦК КПСС аб мерах далейшага развіцця сельскай гаспадаркі паток пісем на завод асабліва вялікі. Калгаснікі-жывёлаводы настойліва патрабуюць усё новых і новых машын, якія механізуюць працэсы кормаздабывання і прыгатавання кармоў. Асаблівую цікавасць выклікаў кормапрыгатавальны камбінат «КПК-1,5», прыняты да вытворчасці ў 1954 годзе. Гэты агрэгат аб'ядноўвае работу пяці розных машын: праводзіць мыццё, рэзку, цеплавую апрацоўку, дазіраванне, змешванне і транспартыроўку кармоў.

Але адно пісьмо прымушае Паўла Лаўрэнцьевіча насцярожыцца: калгаснікі паўднёвых раёнаў пішуць, што для іх умоў не зусім падыходзяць сіласны камбайн «СК-1,2». Справа ў тым, што для багатых ураджаяў сіласных культур на поўдні шырыня захопу камбайна недастатковая. І калгаснікі просяць паведіначыць хедэр.

— Пакліччэ Баравіхіну! — просіць Сімакоў тэхсакратара.

З першых дзён работы ў Спецыяльным канструктарскім бюро Надзя Баравіхіна працавала ў групе сіласнага камбайна.

Надзя ўвайшла.

— Клікалі, Павел Лаўрэнцьевіч?

— Вось прачытайце...

З першых радкоў твар Надзі прыняў заклапочаны выраз. Нават шчокі яе пачырванелі. Але па меры чытання выраз гэты знікаў, і Сімакову здалося, што ў цёмных вачах дзяўчыны засвяціласа радасць.

— Па-мойму, усё добра, Павел Лаўрэнцьевіч, — сказала дзяўчына, дачытаўшы пісьмо. — Замест адной машыны будзе дзве. Павелічэнне памераў касільнага апарата не патрабуе істотных змен у канструкцыі камбайна.

— Моладзь!.. — з нейкім незразумелым адценнем у голасе сказаў Сімакоў. — Ім усё дробязь!

Але па цёплым бляску ў вачах старога інжынера Надзя бачыла, што гэтая моладзь яму ўсё-ж падабаецца.

У пакой увайшоў Сямён Сысоевіч Ганчароў, які ў час адсутнасці вядучага канструктара ўзначальваў групу сіласнага камбайна.

— Магу павіншаваць вас, — басавіта загаварыў ён яшчэ з парога. — Эталонны ўзор сіласнага камбайна гатовы! — Дабрадушны, адкрыты твар інжынера свяціўся ад задавальнення.

— А гэта не сапсуе вашага настрою? — спытаў Сімакоў, падаючы Ганчарову пісьмо.

Прачытаўшы пісьмо, Сямён Сысоевіч заўважыў:

— Што-ж, будзем рыхтавацца да выпуску другога ўзору машыны, дзе шырыня захопу будзе ўжо не 1,2 метра, а, скажам, удвая больш. Прыдзе час, калі ў паўночных раёнах і раёнах сярэдняй паласы краіны будуць збіраць такі-ж ураджай сіласных культур, як і ў паўднёвых. Тады мы цалкам пяройдзем на выпуск другога ўзору, — закончыў ён з той-жа дабрадушнай усмешкай.

Ганчароў закончыў Мінскі політэхнічны інстытут у 1938 годзе. Ён — адзін з нямногіх інжынераў канструктарскага бюро, якія выйшлі, так сказаць, з юнацкага ўзросту. Калі не лічыць яго, ды Паўла Лаўрэнцьевіча, ды галоўнага канструктара, то да «старых» у калектыве бюро можна яшчэ аднесці толькі кіраўніка групы малочных машын Барыса Навумавіча Баса. А астатнія — моладзь.

— Віноўнікаў урачыстасці Лідзію Волкаву і Надзежду Баравіхіну, — усіх, вядома, ад работы не адрываю... — прашу палюбавацца камбайнам, — зноў загаварыў Ганчароў. — Не машына — прыгажуня!

— А нам, — ледзь не ў адзін голас усклікнулі Таня Сёмкіна і Аня Нізоўцава, — як сяброўкам Баравіхінай, можна?

— Парадавацца поспеху сяброўкі?.. Бадай што можна...

У эксперыментальным цэху брыгадзір брыгады слесараўзборшчыкаў Васіль Фралоў замацоўваў на камбайне апошнія балты. Невялікая комплексная машына, афарбаваная ў блакітны колер, сапраўды была прыгожай. І, прыкмеціўшы ў вачах дзяўчат захапленне, слесар-стаханавец Мікалай Карнейкоў, прыпадняўшы кепку і прыгладзіўшы валасы, усім сваім выглядам не прамінуў паказаць, што існаваннем сваім машына ў немалай ступені абавязана і яму. І не толькі таму, што слесару давялося збіраць яе, — усяму заводу вядома, што брыгадзір Васіль Фралоў, слесар Мікалай Фралоў і ён, Мікалай Карнейкоў, унеслі шмат каштоўнага ў палепшанне канструкцыі камбайна.

У чарцёжную сяброўкі вярталіся ўтраіх. Волкаву Сямён Сысоевіч затрымаў у цэху.

У канструктарскай дзяўчаты засталі ажыўленую размову. Георгі Трафімук завёў размову аб комплекснай механізацыі.

— Вы паслухайце толькі! — гаворыць ён, пагладаючы з-за акуляраў на газету. — Вось: «...узмацніць работу па канструяванню новых машын і прылад, неабходных для комплекснай механізацыі кормаздабывання, асушэння і карэннага палепшання лугоў і пашаў, абваднення пашаў, а таксама для механізацыі працаёмкіх працэсаў на жывёлагадоўчых фермах...» Усё гэта мае самыя прамыя адносіны да нас. Вось уявіце — мы зрабілі з вамі транспарцёр-раскідальнік угнаенняў, а зараз працуем над змяшальнікампагрузчыкам угнаенняў. Пачнем з апошняга: на прыфермскім участку або на полі, якое забяспечвае ферме кармавую базу, змешваем машынай гной, суперфасфат, фасфарытную муку, вапну. Улічыце, што 3 — 5 тон такога ўгнаення могуць замяніць 40 — 50 тон гною. Але змяшальнік з'яўляецца адначасова і пагрузчыкам, дзякуючы чаму аргана-мінеральная сумесь паступае на транспарцёр-раскідальнік, які працуе ў сшчапленні з трактарам «ДТ-54». Комплекс! Наша машына будзе пагружаць і змешваць да 70 тон угнаення ў гадзіну. Уяўляеце, колькі вызваліцца рабочых рук, калі наш транспарцёр-раскідальнік «ТУР-7» выконвае работу 20 — 25 чалавек!

— А мне дазвольце намаляваць перад вамі другі комплекс, — крыху пачырванеўшы, умешваецца ў гутарку Надзя Баравіхіна. — Убіраем сіласныя культуры. Сіласны камбайн скошвае іх, здрабняе і транспартуе сіласную масу ў бункер, з якога, зноў-такі механічна, сілас выгружаецца на машыну або проста ў вежу ці сіласную яму, калі яна размешчана блізка. А ўслед пачынае працаваць сіласатрамбоўшчык, які пераўтварае сілас у кампактную масу. Праз месяц-два тая-ж машына, стаўшы ўжо сіласаразгрузчыкам, будзе падаваць сілас па трансфарматару праз акно вежы ў латок, а потым у тару.

— А калі дадаць да гэтага падвесную дарогу, — падае з месца голас канструктар Генадзі Божак, — дык сілас з вежы паступіць проста на скотны двор!

— Ну, калі хочаце ўявіць сабе поўны комплекс, дык дазвольце мне, — сказала Нэля Ваганава, падыходзячы да стала Трафімука і на хаду папраўляючы светлыя, шаўкавістыя валасы. — Уявіце сабе сонечны, цёплы летні дзень. Паша... Сюды прыязджае невялікі фургон — перасоўная даільная ўстаноўка. Абслугоўваецца адначасова дзесяць кароў. Наглядае за ўстаноўкай механік, за даеннем — даярка. Канструктар Барыс Навумавіч Бас паклапаціўся аб тым, каб у фургоне быў і кацёл для падагравання вады — вымя карове абмыць — і рушнік. Тут-жа знаходзіцца і халадзільнік для ахаладжэння малака. Разам з даільнай устаноўкай на пашу прыязджае і пастэрызатар. У малако могуць трапіць мікробы, іх трэба знішчыць. Для гэтага малако павінна прайсці праз пастэрызатар, дзе яно падаграваецца да 85 градусаў, а потым ахаладжваецца. Пасля гэтага застаецца толькі адправіць малако да месца прызначэння. Гэтыя машыны амаль усе ўжо зроблены і знойдуць прымяненне ў будучым годзе!

Таня заслухалася. Задумліва глядзіць яна ў акно і, здаецца, бачыць на ўсіх неаглядных прасторах краіны вялікія і малыя агрэгаты, якія нараджаюць багацце прадуктаў.

М. СОКАЛАЎ

# Праз 30 год



**1926 год. Мінская школа вучнёўства Заходняй чыгункі дае пуцёўку ў жыццё першым сваім выхаванцам.** На здымку: **група выпускнікоў школы вучнёўства, аб якіх ідзе ніжэй наш расказ.**



**1953 год, Мікалай Васільевіч Шакаліда — дзяжурны па дэпо.**

На даўнішняй фотакартцы — група юнакоў. Хлопцы трымаюць сябе па-даросламу важна, з нейкім асабліва ўрачыстым пачуццём, якое бывае толькі ў людзей, што доўга вучыліся разам. Перад тым, як пайсці ў фатаграфію, яны, відаць, нямала і настойліва рыхтаваліся. Валасы іх акуратна зачасаны, раўнюткія праборы: не раз даводзілася, мабыць, павязваць непаслухмяныя віхры хусцінкай, пакуль яны скарыліся волі гаспадара. Самыя модныя гальштукі, купленыя ў магазіне «Швейпрома» дзе-небудзь на Ленінскай ці Савецкай вуліцы, з непрывычкі моцна ціснуць шыю, але такія непрыемнасці — дробязь перад важнасцю моманту.

І юнакі — шчаслівыя.

Фотакартка гэтая незвычайная. І не толькі таму, што ёй без малога трыццаць год, але і таму, што на ёй увекавечана група вучняў першага выпуску Мінскай школы вучнёўства, якая ў лістападзе гэтага года адзначыла свой трыццацігадовы юбілей.

Дзе-ж цяпер гэтыя хлопцы? Які лёс напаткаў іх?

У трэцім чыгуначным вучылішчы (яшчэ да вайны школа вучнёўства была ператворана ў чыгуначнае вучылішча) нам параілі звярнуцца да Леаніда Аляксеевіча Брыча, Мікалая Васільевіча Шакаліда і Івана Пятровіча Клімовіча.

— Яны працуюць у Мінскім паравозным дэпо. З іх і пачынайце.

... З паравознай будкі, злёгку трымаючыся за поручні, выходзіць пажылых гадоў мужчына.

— З прыездам вас, Леанід Аляксеевіч! — вітаюць яго рабочыя.

У старшым машыністу цяжка пазнаць таго спакойнага, крыху нясмелага юнака, якога мы бачым на здымку першым злева ў верхнім радзе. Цяпер ён — вопытны машыніст. У сцюжу і спёку, у дождж і снег вядзе ён свой паравоз па сталёвых рэйках. У паслужным спісу Леаніда Аляксеевіча — не адна падзяка. За 26 год работы на транспарце ў яго не было аварый або прастояў.

— Вам Шакаліду, Мікалая Васільевіча? Ён дзяжурным па дэпо працуе. Сёння якраз яго дзяжурства. Заходзьце!

Маленькі пакойчык з тэлефонамі і маршрутнай картай на стале. У невялікае акенца відаць даволі прасторная зала, дзе размяшчаюцца рэзервныя машыністы. Праз акенца машыністы падаюць пуцёўкі, і дзяжурны па дэпо робіць у іх нейкія адзнакі.

Па фотакартцы ўяўлялася, што дзяжурны па дэпо Мікалай Васільевіч Шакаліда — на здымку ён першы справа ў першым радзе — чарнявы чалавек. А перад намі — немаладых год чыгуначнік з пасівелымі скронямі. І толькі юнацкая рухавасць ды малады бляск вачэй напамінаюць таго Колю Шакаліда, што напярэдадні фатаграфавання выбіраў сябрам гальштукі, «каб і не дарага і па модзе».

— Унукаў ужо маю, — гаворыць Мікалай Васільевіч.

Аб мінулай дружбе ён гаворыць з захапленнем.

— Клімовіч? На фотакартцы ён — чацверты злева ў верхнім радзе. Гэты не змяніўся. Яго адразу пазнаеш. А побач са мной — другі справа — мой стары сябра Іван Мацвеевіч Жыжаль. Зараз ён працуе намеснікам Міністра жыллёвага і грамадзянскага бу-



**1930 год. У кузні школы вучнёўства Заходняй чыгункі.** Справа — **Уладзімір Бразгаўка.**



**1953 год. Уладзімір Андрэевіч Бразгаўка — дэпутат Вярхоўнага Савета БССР. Да яго з просьбамі часта звяртаюцца выбаршчыкі. Уладзімір Андрэевіч хутка рэагуе на кожную з іх.** На здымку: **У. А. Бразгаўка ў кабінеце.**



**1953 год. Былы выпускнік Мінскай школы вучнёўства Уладзімір Уладзіміравіч Папковіч працуе намеснікам начальніка паравознага дэпо.**

даўніцтва. Вырас хлопец! Але не ён адзін. Вось трэцім злева ў верхнім радзе сфатаграфаваны Антон Дулькевіч. Цяпер ён—намеснік начальніка Упраўлення Уфімскай чыгункі, а побач з ім— Васіль Гундзіловіч. Ён працуе намеснікам начальніка дэпо імя Ільіча ў Маскве. Многа выйшла з нашай школы камандзіраў транспарту, машыністаў, брыгадзіраў. У нас у дэпо ледзь не кожны трэці скончыў трэцяе чыгуначнае.

...У прыёмнай адказалі, што Іван Мацвеевіч Жыжаль паехаў на аб'екты і будзе толькі ўвечары. У Мінску ідзе вялікае будаўніцтва, і Іван Мацвеевіч не сядзіць у кабінеце.

Увечары ён аказаўся не менш занятым. У кабінет заходзяць супрацоўнікі міністэрства, прадстаўнікі ад будоўляў. Будуецца не толькі Мінск — у Віцебску, Магілёве, Гомелі ўзводзяцца сотні жылых дамоў.

Іван Мацвеевіч з ахвотай расказвае аб школе вучнёўства, успамінае прозвішчы і імёны вучняў першага выпуску. Аказваецца, у пасляваенны час ён сустракаўся з кожным з іх.

— Наша школа вучнёўства — сапраўдная кузня кадраў, — гаворыць Іван Мацвеевіч.

Ён прыпамінае з дзесятак устаноў, дзе зараз працуюць выпускнікі школы. Сярод іх — міністэрствы, будоўлі, абкомы партыі.

...На здымку — два хлапчукі ў кузні. Адзін трымае кавалак жалеза, другі падняў молат і вось-вось ударыць... Хлапчукі гэтыя — таксама вучні былой школы вучнёўства. Адзін з іх — той, што трымае жалеза — Уладзімір Бразгаўка. Здымак гэты зроблены ў дні вучобы Уладзіміра ў школе вучнёўства.

Уладзімір Андрэевіч Бразгаўка цяпер дэпутат Вярхоўнага Савета БССР. Наш карэспандэнт сфатаграфаваў Уладзіміра Андрэевіча, калі ён размаўляў па тэлефону з повадў скаргі аднаго з выбаршчыкаў.

Шлях ад простага рабочага да вучонага, грамадскага дзеяча — звычайны шлях маладога чалавека нашай краіны. У чыгуначнай школе № 3 вам назавуць дзесяткі прозвішчаў былых выхаванцаў, якія зараз займаюць адказныя пасады, сталі перадавікамі вытворчасці.

З гонарам гавораць у школе пра бацьку і сына Малашкаў: бацька закончыў школу больш дваццаці год назад, сын — сёлета вясной; пра старшага машыніс-



**1953 год. Вучылішча мае добраабсталяваныя майстэрні.** На здымку: **вучань дзевятай групы комсамолец Вечаслаў Грынкевіч працуе на складаным такарна-вінтарэзным станку, прыстасаваным для сілавога і скарасного рэзання.**

**1953 год. Іван Мацвеевіч Жыжаль працуе намеснікам Міністра жыллёва-грамадзянскага будаўніцтва БССР.**



та комсамольскага паравоза 10-95 Дзмітрыя Саладкова, пра Уладзіміра Уладзіміравіча Папковіча — намесніка начальніка паравознага дэпо, Яўгенія Давыдавіча Амельяновіча — выкладчыка чыгуначнага вучылішча № 3 і многіх другіх, у каго сённешнія вучні вучацца настойлівасці, уменню перамагаць у працы.

Даўно няма драўлянага доміка ў раёне Суражскага базара, у якім размяшчалася чыгуначная школа вучнёўства. На Чыгуначнай вуліцы пабудаваны двухпавярховы дом. Тут вучацца будучыя чыгуначнікі. Раніцай калідоры школы запаўняюць юнакі ў форменных чорных шынялях. І як толькі званок абвяшчае пачатак заняткаў, адны садзяцца за сталы і ўважліва слухаюць тлумачэнні майстроў-выкладчыкаў, другія ідуць у майстэрні, каб набыць там практычныя навыкі. І майстэрні цяпер не тыя, што былі дваццаць-трыццаць год назад. Няма закапцелай кузні, халоднай слясарні. Цяперашнія майстэрні аж зіхацяць, такая там чысціня. Ды і абсталяванне не тое. Вучні трэцяга чыгуначнага вучылішча навучаюцца кавальскай, такарнай, слясарнай справе на станках самых новых сістэм.

Транспарту патрэбны высокакваліфікаваныя рабочыя. Такімі і рыхтуе іх трэцяе чыгуначнае вучылішча.

Ёсць у вучылішчы добрая традыцыя: наладжваць сустрэчы з былымі выпускнікамі, перадавікамі чыгуначнага транспарту. Вечары гэтыя — жывая ілюстрацыя да гісторыі вучылішча. Урокі гэтай гісторыі кажуць: кожны сённешні вучань заўтра можа быць камандзірам транспарту, грамадскім дзеячом, заслужаным чалавекам.



Іван ГРАМОВІЧ

# ЧЫРВОНЫЯ АНТОНАЎКІ

Апавяданне

Мал. І. Давідовіча.

Антон — радыётэхнік у нашым Парэччы. Вы, як будзеце ў нас, пачуеце голас яго кожны вечар. Антон уключае і выключае калгасны радыёвузел. Ён заўсёды абвяшчае пра сход, пра зборы самадзейных гурткоў, папярэджвае аб паседжанні праўлення ці аб выступленні ля мікрафона Кандрата Баравіка, нашага старшыні калгаса. І штодзённа ў канцы завяршае: «На гэтым Парэцкі радыёвузел работу сваю заканчвае. Слухайце перадачу з Мінска» або «Уключаю трансляцыю з Масквы».

Гэтыя словы так і пайшлі за ім... Але, трэба сказаць, што Антон наогул любіць гаварыць замыславата і выкопваць аднекуль замежныя слоўцы. Хоць ты насі з сабою слоўнік. Вось, напрыклад, ён праводзіць у нас палітвучобу, і ніколі не абыйдзецца без такіх выразаў: «Вы, дзяўчаты, павінны кансалідаваць свае сілы...», «Мы не будзем дыскусіраваць...», «Дыскусіруйце, таварышы, дыскусіруйце!..» І сур'ёзнасці пры тым, як у пракурора або ў дакладчыка з вялікай трыбуны.

У такіх выпадках я адразу секла: «Не дарэчы!» Я заўсёды ў вочы кажу, **што думаю**.

Праўда, Антон мяне слухаў. Да апошняга дня мы з ім мірыліся і прыходзілі да згоды. Часамі здавалася, што мы, як ніхто і ніколі, адзін аднаго разумеем. А калі ёсць разуменне, ёсць адзінства — усё тады дробязь! Добра ў такія часіны марыць пра будучыню...

Аднак — то было. А што здарылася, вось паслухайце.

Надоечы, пасля абеду, мы ішлі ў поле. Антон спаткаў нас з газетамі. Усхваляваны нейкі, дае свежыя газеты і кажа:

— Дзяўчаты, вы чулі? К нам дэлегацыя прыязджае. Рабочыя, сяляне... Ведаеце адкуль? З новага, дэмакратычнага Кітая! Сенсацыя!..

У наш калгас прыязджалі ўжо дэлегацыі. Яны цікавіліся, як мы жывем, хадзілі, аглядалі брыгады, фермы, гутарылі з усімі — са старшынёй, з аграномам, з жывёлаводамі. Іх зацікаўленасць да нас вядомая, і самі яны звычайныя, мала чым адрозніваліся ад нас, калгаснікаў, і мужчын і жанчын. Магчыма, ад гэтага сустрэчы зрабіліся крышку прывычнай з'явай. Няма чаго таіцца, калгас наш, Парэчча, за апошнія гады ўвабраўся ў сілу. Мы аднавілі гаспадарку, выраслі, і не дзіва, што сюды часта наведваюцца замежныя суседзі. Ды мы і рады прыняць гасцей. Толькі прыезд дэлегацыі з далёкага Кітая быў для нас такой нечаканай весткай, што мы аж анямелі.

— Вой, дзевачкі! — парушыла я маўчанне, заглядаючы па чарзе ў вочы Любе, Каці, Волечцы, Ніне. — Як добра!.. Мы пабачым людзей з Кітая. Я-ж ніколі яшчэ іх не бачыла!..

— І я таксама, — сказала Вера.

Маю думку дзяўчаты заўсёды падтрымаюць. І не дзіўна. Усе мы аднолькавага ўзросту, дружым. Што мы дзе бачылі? Вось, як успомнім урокі ў школе, дык і марым. З настаўнікамі геаграфіі і гісторыі мы ўяўлялі гэтую краіну, якую некалі абгарадзілі мураванай сцяной. Кітайская сцяна, кітайскія іерогліфы... Там рысавыя палеткі, лёсавая глеба... Нарэшце, там краіна, дзе столькі год працоўныя бедныя людзі, рыкшы, кулі вялі змаганне за сваё шчасце, ваявалі з прышэльцамі, ваявалі са здраднікамі, доўга і ўпарта біліся — і перамаглі! Цяпер — новы Кітай. Мао Цзэ-дун! Нам вядома аб ім, і Антон не раз паўтараў гэта на палітзаняткаў.

З газетамі, узрушаны, Антон стаяў перад намі, і мы гатовы былі павіншаваць яго з такой весткай.

— Рыхтуйцеся, — сказаў Антон. — Яны прыедуць заўтра раніцай. На аўтобусах. Анонс, між намі...

Мы абступілі Антона.

— Заўтра раніцай?

— Што рыхтаваць? Як страчаць будзем? — зашчабятала наша Ніна.

— А так, што прыбірайся!.. Ды пудры не шкадуй на свае вяснушкі, — ушчыкнуўшы яе, адказала Люба, самая языкастая сярод нас і бойкая на жарты.

Мы ўжо калі разрагочамся з ёю, не стрымаць! Усе снапы паваляем, качаючыся ад смеху.

Антон паважны і сур'ёзны, а тут і сам хіхікнуў з Ніны.

— Вось табе, Антоша, за газеты, — працягнула яму яблык Каця.

— І за радыёнавіну!

— І за ўсмешку, — пеканула Люба. — Сёння ты а-анонс!..

Антон, сапраўды, заўсёды заклапочаны то палітзаняткамі, то радыёапаратурай. Вечна ідзе і нешта рашае. А сёння ён — вясёлы, узрушаны. Пінжак у касцюме наспех зашпілены, маланка рубашкі на поўзамка, відвеецца краёк салатавай саколкі на загарэлых грудзях.

Антон, трэба сказаць, сімпатычны. Чарнабровы, вочы сінія. Калі ён доўга ўглядаецца на мяне, то мне становіцца ніякавата, быццам улетку, упоўдзень, глядзіш пад сонца на расцвіўшы палетак ільну. Сінь аж вочы адбірае. У такіх выпадках, калі ён угледзіцца і штосьці думае, я рукой замахваюся па чупрыне ці перад носам яго: «Чаго ўставіўся? Не глядзі так!»

«Ма-сква — Пекін!

Ма-сква — Пекін!» — заспявалі дзяўчаты песню, адыходзячы на работу. І я пайшла за імі.

— Надзя! — паклікаў Антон.

— Чаго?

Я затрымалася і крадком глянула яму ў вочы. Сэрца маё, прызнаюся, аж замерла ў гэты момант. Я раскажу прычыну.

... Ведаеце, вясною мы з ім вярталіся з раёна. На нарадзе былі. Толькі ўдваіх. Было гэта ў маі. Усё цвіло — яблыні, вішні. А сад у нас — от, прыязджайце ў госці — два кіламетры, ад першай да другой брыгады цягнецца. І тады ён расцвіў, белы-белы, як снегам абсыпаны. Ну, мы ішлі і аб усім размаўлялі. Такой дарогай можна бясконца ісці і не агледзішся, як прыдзеш. Вось збочылі ісці праз

сад, гэта ўжо недалёчка ад Парэчча, і тут Антон пачаў нешта пра ЗАГС'ы, пра тое, што ён глядзеў нейкі спектакль, дзе маці, старшыня сельсовета, будучаму зяцю заказвала намаляваць шлюбнае пасведчанне ў залатых рамках. І загаварыў ён аб гэтым, як заўсёды: «Я прынцыпова, з пункту гледжання», «Яшчэ Энгельс у сваёй рабоце «Паходжанне сям'і, прыватнай уласнасці»... І раз-по-разу мяне затрымліваў: «Разумееш, Надзя, пачакай!» А я ішла сцежкай і смяялася сама сабе. Я ведала той спектакль — «Калінавы гай»... Антон разумны, лепш за яго ніхто не наладзіць радыё, ён мне падабаецца. Але гэта яго прыкрая прывычка замысляваць разважаць! А сад, вой, як дыхнуў нам у твар гарачым цветам!.. Тут Антон за руку, спыніў мяне і пачаў пытацца, ці праў ён, ці згодна я з яго «пунктам гледжання». Мне было прыемна слухаць Антона, але не хацелася, каб ён так мудра выказваўся. Ён паспрабаваў абняць мяне, і я спачатку не вырывалася.

— Гэта белая антонаўка ці чырвоная? — з хітрынкай запытала я.

Перад намі, уся ўсыпаная цветам, стаяла яблыня. Над яе кронай пчолы звінелі, кружыліся роем.

— Белая.

— Не! — запярэчыла я. — Пусці!

І, нагнуўшы галінку, паказала на пялёсткі кветачак. На тых пялёстках былі чырвоныя крапінкі, палоскі, прасветы, пацягнутыя ружовым колерам. Такія прасветы бываюць на спелых яблыках чырвоных антонавак. Не ведаю, я не чула ад садоўніка, ці ёсць гэта прыкмета чырвонай антонаўкі ў кнігах, але я, каб загаварыць яго, настойліва даводзіла:

— Гэта чырвоная антонаўка.

— Дык што? Гэта не прынцыпова... І што з таго?

— А тое, што цяпер цвет, а па-восені — яблыкі, — сказала я і вырвалася бегчы на дарогу-гравійку, па якой хадзілі машыны. Я баялася глядзець у вочы Антону. Але, калі ён дагнаў, рашучасці ў мяне было больш, чым на сцежцы ў садзе, хоць бегучы я аж спатыкнулася ад зморанасці.

— Пусці руку! — крыкнула я. — Бачыш, едуць!

Як і раней, мы пайшлі побач, і Антон зноў пачаў гаварыць:

— Надзя, ты катэгарычна... Калі дасі адказ?
— Я-ж табе адказала, — засмяялася я.
— Што ты адказала? — здзівіўся ён. — Канкрэтна... Які твой адказ?
— Як паспеюць яблыкі... Чырвоныя антонаўкі... Ты — Антон, і чакай чырвоных антонавак...
Мне здаецца, я дала яму зразумець усё. Антон зразумеў мяне.

Цэлае лета мы бывалі на вечарынках разам. Мінула лета. Настала восень. Даўно абабраны чырвоныя антонаўкі ў нашым садзе. Яны — раннія яблыкі. Ужо бярозавыя падпоры гнуцца пад цяжарам белых антонавак, «пуцінавак». А Антон — маўчыць... Я не ведаю, што ён думае...

...Вось зараз, калі ён паклікаў мяне, трымаючы ў руках «пуцінаўку», што дала яму Люба, я аж спалохалася таго, што ён можа сказаць. Але сэрца маё не ўгадала.

— Надзя, ты прыдзеш сёння ў клуб? — запытаўся ён.

Я ўсміхнулася ў знак згоды і чакання, што ён яшчэ хоча сказаць. Антон згарнуў у скрутак газеты і — дзе яго весялосць падзелася! — заклапочана дадаў:

— Буду маляваць плакаты. Разумееш, трэба ўрачыста спаткаць гасцей... «Прывітанне дарагім таварышам з Кітайскай Народнай Рэспублікі!» Падыходзіць?

«Масква — Пекін!
Масква — Пекін!
Ідуць, ідуць ўпарод калоны», —

адыходзячы, спявалі дзяўчаты.

— На-дзя! О-го-го! — клікала мяне Люба.
— Ну, намалюй, — ціха сказала я. І, глянуўшы ўслед дзяўчатам, дадала: — Пайду, мяне клічуць.

Пайшла, не аглядаючыся, а сама думала: «Не, не прыду ў клуб». Ведаеце маю натуру? Вось тут, у грудзях, нешта — ёк, задрыжыць, і думка падказвае: «Надзя, вось так рабі!», «Вось так паступай!» І, калі ўжо з'явіўся якінебудзь намер, так таму і быць. Ніхто не стой на шляху, — усёроўна па-мойму будзе!

Я дагнала дзяўчат на лузе, дзе мы рассцілалі лён. Усё наша звяно ільнаводчае. Дзяўчаты — комсамолкі, а я трэці год між іх звеннявая. У нас і прыпеўкі пра лён, і гаворкі пра лён. Ільнаводы парэцкія — чулі можа? Круглы год у нас кампаставанне, пасеў, праполка, уборка, абмалот, пасцілі, ачыстка і — зноў, — усё гэта ідзе адно за адным, як зіма, вясна, лета, восень. Вось цяпер восень, а ў нас самы гарачы час. Чацвёра дзяўчат пасля абмалоту ачышчаюць насенне, каб здаць дзяржаве, а мы, адсартаваўшы ільнасаломку па даўжыні і таўшчыні, сцелем яе. Летась нават церлі і здавалі ручайкамі на ільназавод... Зімою капаем на балоце торф, падрыхтоўваем кампосты з мінеральнымі ўгнаеннямі, ці, як Люба кажа: «рыхтуем дрожджы для зямлі»... Вясной — пасеў. А там, калі зацвіце лён, — вой, я-ж так люблю, як цвіце лён! — мы цалюсенькі дзень на сваім палетку. Нам усім падабаецца гэта работа.

Вы не бачылі парэцкага поля? Трыста гектараў сёлета было засеяна ільном. Як расцвіў на ўсім прасторы, — не адрозніш неба ад зямлі. А як пачалі ірваць, то пучкамі снапоў пакрылі ўсё поле! Цяжкія, з бронзавымі галоўкамі, яны стаялі адзін пры адным. Мы не адны. У Парэччы шмат ільнаводчых звенняў, а не ўпраўляемся ў гэтым годзе. З ільнакамбайнамі не даем рады — трыста гектараў!.. Ото, каб добрае надвор'е пастаяла, такое, як цяпер, — сонца, цеплыня... Ну, а калі не ўправімся, у стагі лён складзем, будзем рассцілаць па лузе вясною.

Дзяўчаты загаварылі пра Антона, але я рабіла выгляд, быццам мяне гэта не датычыцца і сапраўды ў рабоце імкнулася адвесці свае думкі. Яны хвалілі яго, а маю галаву не пакідала адно: «Колькі было вечароў за ўсё лета! Дзевачкі, вы-ж бачылі! Шмат ён гаварыў, а што — нічога»...

Вечарам я нікуды не пайшла. Слухала, што гаворыць наш рэпрадуктар і ўяўляла, як Антон у клубе малюе плакаты. Пакуль не загарэлася ў доме святло, я сядзела ля акна.




За акном у маім гародчыку вяргіні, флоксы, астры. У нашых дзяўчат ва ўсіх кветнікі але мой кветнік — самы большы. У мяне ёсць вяргіні любых колераў: ружовыя, рабенькія і нават «бараняе сэрца». А флоксы — сінія, белыя! Я іх люблю. Яны моцна пахнуць. Не ведаю, як іх завуць у вас, а ў Парэччы іх яшчэ празвалі «кавалерамі».

Я так сядзела, думала, і раптам праз адчыненае акно надта запахлі «кавалеры». Сцямнела на вуліцы. Цішыня. Толькі недзе гусі — га-га! — перагукаліся. Раптам штосьці шуршыць у кветніку. Я выглянула і зразумела, чаму такі пах ад кветак.

Воўка, пляменнік мой, сын старэйшай сястры, якая жыла ў другой брыгадзе, нарваў кветак цэлае бярэмя.

— Што ты робіш тут? — крыкнула я. — Чаго ты топчашся па кветках?

Ён — уцякаць. Але не надта ад мяне ўцячэш, калі я ўмею пасля вечарынкі нячутна шмыгнуць праз акно ў хату. З хаты ў кветнік яшчэ лягчэй!

— Ты нашто налаташыў гэтулькі кветак? Хто табе дазволіў? — злавіўшы яго, спытала я.
— Надзечка, даражэнькая! — пачаў прасіцца малы. — Не сварыся!.. У мяне заданне.
— Якое заданне?
— Заўтра гасцей з Кітая мы сустракаць будзем... Надзечка, не адбірай кветак!

Ну, што ты зробіш з ім? Суцішаючы свой гнеў, я сказала, што трэба спытаць дазволу, калі хочаш зайсці ў кветнік. Застаўшыся адна, я пачала думаць пра гасцей. Усе ў нас — бацька і маці — гаварылі аб гэтым. Перад вячэрай забегла Верачка Саковіч. Яна вярталася з клуба, несучы кніжку «Сонца над ракой Саньгань».
— Ты чытала?
— Чытала, — адказала я.

Яна паведаміла, як там падрыхтаваліся ў клубе, і што робіць Антон. «Ну, што-ж, мяне гэта не датычыцца, — думала я. — Мы з ім разам хадзілі ў дзесяцігодку, а потым ён пайшоў на адны курсы, я — на другія. Разыйшліся... Магчыма, наогул шляхі нашы розныя».
З такімі думкамі я легла спаць.

...Госці прыехалі раніцай на двух аўтобусах.
...Іх сустракалі з хлебам-соллю. Мой бацька на ручніку падносіў бохан хлеба. А побач з ім дэпутат Вярхоўнага Совета Аўдоцця Шляхтуновіч трымала соль. Кандрат Баравік і ўсе брыгадзіры стаялі за імі. Уся школа з букетамі кветак стоўпілася каля праўлення. Колькі было букетаў! — Не падступіцца да аўтобусаў! Так што, як спыніліся машыны, мы падняліся аж на бярвенне, складзенае ля клуба.

Госці, мужчыны і жанчыны, павыходзілі на плошчу. Усе смуглявыя, у аднолькавых сініх гарнітурах. Кожны з іх прыветліва глядзеў на нас, а мы таксама ад радасці затаілі дыханне. І адразу адзін другога зразумелі. Так што, калі кіраўнік іх сказаў першыя словы на сваёй мове, мы запляскалі ў далоні: зразумела, — ён вітаў нас.

Затым гаварыў Кандрат Баравік.
— Дарагія госці! Вітаем вас на нашай калгаснай зямлі...

Ён гаварыў нядоўга, запрашаў паглядзець тое, што мы аднавілі пасля вайны: фермы, свірны, новы ўраджай на полі. Ён сказаў, што пасля агляду можна будзе раздзяліцца на групы і кожны, хто хоча, — няхай аглядае або цікавіцца падрабязней, заходзячы ў хаты, як самы блізкі госць.
— Могуць і да нас заглянуць, — здагадалася я і сказала аб гэтым дзяўчатам.

Пасля мітынга мы накіраваліся да сябе, на луг, на работу, дзе сенажаць была прычэсана роўнымі пасмамі сцеленага ільну. Пад сонцам лён аж блішчэў.

Я не памылілася. Перад самым абедам група гасцей з'явілася на лузе. Яны паказаліся з сяла, ішлі да нас, і іх здалёк можна было ўбачыць. Дзяўчаты стараліся пазнаць, хто іх вядзе, і, разгледзеўшы, сказалі ў адно слова:
— Антон!

Ён, як павадыр, паважна ішоў наперадзе, размахваючы перад сабой рукою. А побач з ім крочыў юнак з ордэнам на цёмнасінім касцюме. Астатнія былі жанчыны. Усіх сем чалавек з Антонам. Перш-на-перш яны падыйшлі да мяне. Ордэнаносец працягнуў руку, радасна ўсміхаючыся. Валасы яго

былі чорныя-чорныя, а ўсмешка на смуглявым, па-нашаму круглатварым і ледзь скуластым, ледзь курносым аблічы проста сляпіла верхнім радам белых зубоў.

— Пры-ве-та! — сказаў ён па-руску.

Прывітаўшыся са мной, ён пачаў падаваць руку ўсім нашым дзяўчатам.

— Будзеш інфармаваць ад імя ўсяго звяна, — строга папярэдзіў Антон, чаго я — падумаеш! — слухаць не захацела. І нават падкрэслена адвярнулася ад яго, вітаючыся з дзяўчатамі-кітаянкамі.

— Увага! гэта іх таварыш перакладчык, — збоку падказаў Антон, калі я віталася з адной госцяй.

Сапраўды, як толькі мы, утварыўшы з гасцямі круг на зялёнай траве, пасталі, смуглявая дзяўчына загаварыла па-нашаму, звяртаючыся да мяне. Яна папрасіла ад усіх прыезджых расказаць пра тую работу, якую мы робім на лузе. Спачатку я не ведала, як ім расказваць...

— Наша культура — лён. Гэта — лён, — сказала я. — А мы — ільнаводы.

І ў той момант, калі я загаварыла, а ўслед за мною стала перакладаць смуглявая дзяўчына, я заўважыла, што ва ўсіх слухачоў з'явіліся ў руках блакноты і запісныя кніжкі.

— Лён-даўгунец, — удакладніла я. — Сеем яго ўвесну...

Коратка я ўспомніла ўвесь рабочы год. Вы таксама не бачылі нашых палеткаў і не бачылі таго канюшынішча, якое летась аграном і старшыня адвялі нам пад лён! І гэта, усім нам вядомае, пра што я апавядала, надта цікавіла гасцей. Яно відно было па іх вачах. Я гаварыла, гледзячы на іх, а мне ўяўлялася далёкая краіна, дзе яны сеюць рыс, гаолян. Як яны сеюць, я таксама ніколі не бачыла. Толькі ордэнаносец мала запісваў. Мы з ім больш спатыкаліся позіркамі. Я расказала: колькі ў мінулым годзе мы намалацілі насення, колькі здалі валакна дзяржаве і што калгас атрымаў праз гэта два мільёны рублёў прыбытку. Усё занатавалі сабе госці...

Што яшчэ іх цікавіла? Калі я спытала, яны перамовіліся.

— Навошта сцелеце лён?

— Каб вылежаўся і адстала валакно ад трасты, — сказала я, наглядаючы, як Люба і Волечка ўсміхаюцца. — Глядзіце!

Я ўзяла саломку ільну і пачала церці. Што адбываецца са сцяблом пакуль яно ляжыць? Валакно лубу злучана з драўнінай і карой клейкім пектынам. Пад дзеяннем вады і цяпла ў сцябле развіваюцца мікраарганізмы, асобыя грыбкі, якія размякчаюць пектын і разбураюць злучэнне клетак кары. Кара і драўніна становяцца хрупкімі і лёгка аддзяляюцца ад валакна. Усё гэта мы вучылі на курсах, і я, паказваючы, апавядала гасцям. Круг наш зрабіўся цесны. Мне дапамагалі сяброўкі. Мы казалі, што ільну патрэбны раннія росы, каб ён асеннімі туманамі набрак, а потым высах. Вось тады будзе моцнае валакно.

— Доўга ляжыць лён?

— Месяц.

Іх цікавіла ўсё.

— А вышэйшы лён можа расці?

— Можа, — сказала я. — У будучым годзе мы ўлічым сёлетні вопыт. Хоць і гэтае сцябло не малое, бачыце, большасць у метр вышынёю, але мы вывучаем яго з аграномам у лабараторыі... Мы спаборнічаем з другімі звеннямі.

Госці перамаўляліся паміж сабой, а мы слухалі невядомую мову, першы раз у жыцці слухалі іх, і, здагадваючыся, аб чым яны размаўляюць, радаваліся. Нарэшце перакладчыца сказала:

— Таварыш гэты, — паказала яна на стрыжаную пад хлапчука прыветлівую дзяўчыну, — работніца, «выдатнік працы» шаўкова-ткацкай фабрыкі ў Аньдуне Чан Юнь... А гэта Сю Фучжэнь — з Дзесятай дзяржаўнай фабрыкі ў Шанхаі... У нас *таксама* ідзе патрыятычны рух сярод тэкстыльшчыкаў. Як і ў вас. Яны, як і вы, стаханаўцы.

Нясмела, але шчыра, з радасцю глядзелі мы на гасцей. Люба ўзяла пад руку кітаянку і прытулілася да яе. Якая незвычайная сустрэча! Дзе Шанхай?! Дзе Аньдунь?! І вось — іх пасланцы ў Парэччы...

Да мяне звярнуўся юнак, які быў сярод іх і, відаць, крыху валодаў нашай мовай.

— Калі ласка... зваць вас?

Я сказала сваё імя.

— Надзя?! Лю! — радасна выгукнуў ён, паказваючы сабе ў грудзі каля ордэна. — Лю Лі-фу!.. Я — селянін...

Ён горача загаварыў, звяртаючыся то да мяне, то да перакладчыцы, а я недаўменна сачыла за яго рукамі, цярэбячы гузік на сваёй кофтачцы.

— Вы — лепшыя ільнаводы, — звярталася да мяне перакладчыца. — Нам сказалі, што вы маеце ўзнагароду. Лю Лі-фу цікавіцца, якім ордэнам вас узнагародзілі.

Антон глядзеў, упэўнена за мяне ківаючы галавой. Падумаеш!

— У нас усе дзяўчаты ўзнагароджаны, — сказала я. — Усё наша звяно ўзнагароджана. Летась Указам Прэзідыума Вярхоўнага Совета нас узнагародзілі за высокі ўраджай ільну... Мяне — ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

Я глянула на сваіх дзяўчат і, між іншым, заўважыла, што на луг прышла машына, у якой прыехаў мой бацька. Я бачыла, як ён вылез з кабіны і накіраваўся да нашага гурту. Праўда, ён быў яшчэ далёка, дзе спынілася машына, перад самым сцелішчам. І яшчэ я заўважыла, што Антон стаіць, як самы адказны за ўсё, што тут адбывалася. Вось яшчэ!

Раптам госці, нібы згаварыўшыся, змоўклі, і да мяне зноў падышоў чарнявы Лю Лі-фу. У руках ён трымаў невялікі скрутак.

— Мы — сябры, На-дзя! — сказаў ён, а далей зноў пачала дапамагаць перакладчыца.

— Нашы дзяўчаты ў Кітаі ткуць шоўк, — упоўголаса за ім паўтарала яна. — Вашы дзяўчаты ў Мінску ткуць сукно. Мы іх бачылі... Вы даеце лён. Мы рады бачыць вашу работу. Вы вельмі любіце гэтую работу. Мы таксама любім сваю работу. Мы захапляемся вашай работай. Няхай ваш лён стане белы-белы... і такі вялікі...

— О! — усхвалявана гукнуў Лю Лі-фу.

Ён разгарнуў скрутак, і аж да зямлі, як увесь мой рост, апусцілася з яго рук белая шаўковая хустка. Яна зіхацела на сонцы лускою рыбы. Срабрысты шоўк з вытканымі ўзорамі па краях пераліваўся, мяняўся рознымі адлівамі. Аньдуньская ткачыха кранула яго, пасярэдзіне хусткі я ўбачыла голуба з распасцертымі крыллямі. Блакітную птушку заўважылі ўсе.

Усмешка на смуглявым твары Лю Лі-фу зіхацела.

— Мы захапляемся работай усіх вашых сяброў. Вы, Надзя, выдатнік працы. Так называюць такіх у Кітаі... Нашы дзяўчаты просяць перадаць гэта вам. Вам я перадаю. Вельмі жадаем поспехаў. Прыміце — нашы дзяўчаты просяць... І ад мяне таксама... Вазьміце!

Лю Лі-фу перакінуў цераз маё плячо хустку з блакітным голубам.

— Дзякую! — ад хвалявання толькі змагла сказаць я.

Ды зноў аглянулася — Волечка, Люба, Галя, Ніна стаялі навокал мяне, і па вачах іх я адчула, што зараз трымаю адказ за нас усіх. Нам жадалі мець белы лён, як гэты шоўк... Мала пацiснуць руку чарняваму госцю, і ней-



кі парыў штурхнуў маё сэрца. Усё неяк задрыжэла. Мільганула думка аддзякаваць усім, хто прыехаў да нас у Парэчча. А Лю Лі-фу, усміхаючыся, з працягнутай рукою стаяў такі просты, наш... Такі... што я не ўтрымалася, абхапіла яго за шыю і пацалавала.

Лю Лі-фу застыў на месцы, здаецца, разгублены, у кроках трох ад Антона, які таксама не рухаўся, як адказны за ўсю цырымонію.

А дзяўчаты ўсе рады былі. Угаманіліся мы, калі да нас падышоў мой бацька.

Ён палявод... У яго ўжо сівая барада. Наш аграном з ім дружыць, і наогул, калі Кандрат Баравік ад'язджае куды-небудзь, бацька яго замяшчае.

— Сцелеце, дачушкі? Так, так! — спачатку сказаў ён. — Надвор'е стаіць удалае. Лянок на сцелішчы любіць сонца...

І сапраўды, надвор'е было ўдалае. Сонца грэла па-летняму і, здаецца, прасвечвала мяне пад гэтай срабрыстай тканінай на плячы. Бацька ці здагадаўся, чаму я ў такім убранні, ці не, але звярнуўся, як звычайна:

— Шмат яшчэ засталося пасцілаць ільну? Так, так! Ну, я прышоў забраць ад вас гасцей. Тут і машына са мной. Як вы, яшчэ не замарыліся? — звяртаецца ён да Лю Лі-фу. — Хачу паехаць з вамі на поле. Паглядзіце палеткі, дзе рос гэты лён.

Госці былі згодны. Толькі нехта з іх пажадаў падыйсці, паглядзець рэчку. І мы гуртам, ведучы размову хто як мог, з перакладчыкам і пры дапамозе жэстаў, накіраваліся да берага.

Лю Лі-фу ішоў з намі. Я — справа, бацька — злева. Цяпер я запыталася, якую носіць ён узнагароду. Я паказала на прышпіленую да касцюма срабрыстую дзесяцікутную зорку, якая нагадвала наш ордэн Айчыннай вайны.

— Гэта — Герой Народна-Дэмакратычнай Карэі, — растлумачыла перакладчыца, гаворачы ўслед за Лю Лі-фу. — Лю Лі-фу кажа, што ён быў на фронце ў Карэі. Лю Лі-фу — добраахвотнік. Калі пачалася вайна ў Карэі, ён пайшоў у раённы Савет і стаў прасіцца, каб яго накіравалі туды, дзе карэйскія браты змагаюцца супраць агрэсараў. Сям'я — бацька, маці, браты — засталася ў вёсцы, а ён паехаў...

— Дай ты рады, сынок! Вось як! — выгукнуў бацька, слухаючы перакладчыцу. — То ведаеце што, даражэнькі, я вам... павінен расказаць адну гісторыю. Якраз прышла на ўспамін, дарэчы. Пакажу я вам адну мясціну. Гэта недалёчка адгэтуль. Берагам, берагам... Вунь, бачыце, дуб?

Мы паглядзелі на луг, дзе над рэчкай узвышалася высокае дрэва. І я, ідучы і трымаючы пад руку перакладчыцу, успомніла, што аб ім гаварылі ў Парэччы. Аб гэтым месцы хадзіла легенда. Толькі то была не легенда, а праўда. «Можа, не трэба займаць гэтым гасцей?» — падумала я. Я ведала, што калі бацька разгаворыцца, — яго не спыніць.

— На поле яшчэ паспеем, паспеем. Мы сходзім туды, — рашуча сказаў ён і пачаў успамінаць.

Ведаеце, у нас на беразе Парэчкі, каля крыніцы, стаіць дуб. Стары, шматвяковы. Голле раскінуў, і як глядзіш на яго, здаецца, верхавіну ўвабраў у сябе, каб шырэй размахнуцца: «Усіх абдыму!» — ды так і застыў. Магутны, лісце шуміць, а галінкі, нават самыя тоненькія, не гнуцца, нібы драцяныя. Волат, асілак! Ля яго выцякае крынічка. Пад самым дубам курган і камень. Камень той шэры, гладкі, бо ў разводдзе вада высокі бераг ля дуба не затоплівае.

Даўно гэта было. Я нарадзілася ў трыццаць чацвертым годзе, а гэта яшчэ, як бацька казаў, за чатырнаццаць год да мяне здарылася. Белыя войскі хацелі захапіць нашу зямлю, задушыць савецкую ўладу. Чырвоная Армія адбівала ворага. Ёй дапамагалі партызаны. Галодныя, босыя, ішлі нашы байцы. Сярод іх можна было спаткаць рускага, украінца, татарына. І быў разам з імі адзін салдат, таксама абарваны, у лапцях, чалавек з далёкага краю, адкуль Лю Лі-фу. У Парэччы не ведаюць, як яго звалі.

Калі мы, слухаючы бацьку, берагам рэчкі падыйшлі да дуба, нам з высокага месца відаць стала роўная даль на захад, за ракою.



— Адтуль наступалі, — сказаў бацька. — А ён з кулямётам узлез на дрэва. Бачыце, Парэчча — а там дарога, якой вы сюды прыехалі. То яны, белыя, хацелі па лузе, от так, прарвацца і асядлаць дарогу. Ды з ім кулямёт на дубе. Цяпер гэта нішто, а тады, ого, якая зброя! Колькі ні кідаліся яны сюды, усіх перакасіў...

Перакладчыца ледзь паспявала гаварыць за бацькам. Моўчкі мы ўсе слухалі, уяўляючы колішні бой. Госці і мы знаходзіліся на тым самым памятным месцы.

— Ды патронаў нехапіла... І ранілі яго... — зрабіў паўзу, быццам дыктаваць пачаў, бацька. — Акружылі яны... Крычаць: «Злазь!» А ён там...

Здаецца, магутны дуб, успамінаючы, таксама слухаў. Выгоднае месца для ўзброенага чалавека было ў яго на вяршку, сярод дужых галін, куды мы паглядзелі.

— Крычаць: «Злазь!» А ён кажа: «Я з вамі, гады, размаўляць не маю аб чым. Совет мяне пасадзіў, Совет і ссадзіць. Совет пасадзіў — Совет і ссадзіць!..»

Успомніла я пажар у Парэччы. Фашысты ўцякалі і падпалілі сяло ў гэтую вайну. Мы былі ў партызанах. І не толькі парэцкія, усе партызаны, калі трэба было смела стаяць, не здавацца, успаміналі земляка Лю Лі-фу. Тут, пад гэтым дрэвам, пахавалі яго нашы вяскоўцы і паставілі шэры камень над магілкай.

Лю Лі-фу не скінуў шапкі, як гэта зрабіў мой бацька, агаліўшы пад дубам сівізну сваіх валасоў, Лю Лі-фу склаў прыгаршчамі рукі перад грудзьмі і пакланіўся ў пояс каменю, і спадарожнікі паўтарылі тое-ж самае. І мы, дзяўчаты, схілілі галовы.

У гэтым сціплым ушанаванні кітайскімі таварышамі памяці невядомага байца адчувалася вечная павага месцу і вечная баявая еднасць з невядомым салдатам.

Лю Лі-фу з пахмурнелым аблічча́м, абветраным парахавымі карэйскімі вятрамі, разагнуўся, падышоў да крыніцы і, левай рукой зачэрпнуўшы вады, глынуў яе. Потым ціха і ўрачыста штосьці прагаварыў.

— П'ючы ваду з гэтай крыніцы, трэба помніць аб дружбе, — пераказала за ім перакладчыца. — Трэба помніць таго, хто ляжыць пад гэтым каменем.

Вось якія яны, людзі з далёкай усходняй краіны!

...І толькі цяпер, аглядаючы ўсіх, я заўважыла, што сярод нас няма Антона. Дзе-ж Антон? Нехта далёка стаяў ля машыны, пакінутай бацькам на лузе. Можа гэта ён?

Вяртаючыся назад, у сяло, Лю Лі-фу запытаў у мяне, дзе я была ў Айчынную вайну. Я сказала, паказваючы на лес, што ўся наша сям'я была там, у партызанах.

Антона я ўгледзела толькі за гасцінным сталом. Велізарнай падковай былі расстаўлены сталы ў клубе і прыбраны для гасцей. Пакуль прыезджыя аглядалі гаспадарку, калгасніцы насмажылі, напяклі і нагатавалі закускі. Вішнёвыя графіны настоек красаваліся на белых абрусах. Груды масла і сыру, румяныя засмажаныя качкі і гусі, цэлыя горы яблыкаў і памідораў узвышаліся на талерках. Кандрат Баравік загадаў падрыхтаваць абед, нібы на дажынках.

Майстра ў такіх справах — наша Маланка, якую ў сяле заўсёды запрашалі ўпрыгожваць стол на вяселлі ці на радзінах, цяпер снавала ля брыгадзіраў, успацеўшая, ружовая ад агню каля печы. Яна зараз баялася, ці будуць да густу далёкім гасцям яе аладкі ў смятане, пасыпаныя цукрам.

— Можа, яны мёду і не любяць? — пыталася Маланка ў брыгадзіра Сымона Шчэцькі, з медалем «За перамогу над Японіяй» на грудзях. — Аладкі з мёдам — пярвейшая ежа. Але я-ж не ведаю, што яны любяць. Як сабе хочуць! Мёд я на сподачкі разліла.

Брыгадзіры, не паголеныя, загарэлыя, толькі са светлымі ілбамі, таму што ўсё лета насоўвалі брылі на вочы, пільна ўглядаючыся на палеткі ды на сенажаці, цяпер пахаджвалі, як камандуючыя арміямі на святочным прыёме. Бацька мой апрануўся пасвяточнаму. Антон-жа стаяў бліжэй да радыёвузла, як кіраўнік музыкальнай часткі. Падумаеш! Нашы позіркі, Антона і мой, чамусьці перакрыжаваліся і разышліся.

Калі Кандрат Баравік сказаў: «Дзяўчаткі, запрашайце і рассаджвайце за сталы гасцей», я, Надзя, Волечка і Ніна, у новых сукенках, што паспелі надзець, забегшы дадому, накіраваліся клікаць гасцей. Мы размаўлялі з імі, нібы з баркаўчанамі. А Баркаўцы — суседні з намі калгас.

— Калі ласка, просім да стала!

— Калі ласка! — паўтаралі па-нашаму яны і ішлі з намі, усміхаючыся, разумеючы без іншых слоў.

Дзяўчаты майго звяна селі насупраць тых дэлегатаў, якія наведалі нас на сцелішчы. Мы сумысля гэта зрабілі. Я села насупраць Лю Лі-фу. Кожная з нас старалася найлепш частаваць тых, над кім узялі «шэфства позіркамі».

У пачатку, як заўсёды, некалькі слоў сказаў Баравік. Затым кіраўнік кітайскай дэлегацыі ад імя ўсіх сваіх таварышаў выказаў радаснае ўражанне аб Парэччы.

— За мір! За дружбу! — узнялі мы першы тост.

Затым усе калгаснікі, што сядзелі ўперамешку з гасцямі, і госці віталі адзін другога. Хто хацеў, браў слова і віншаваў.

А потым у вестыбюлі зайгралі баяністы.

— Давайце гасцей запросім танцаваць?! — прапанавала Люба.

— Давайце, — згадзілася і я.

Танцавала я з Лю Лі-фу. Круг за кругам ішлі мы па вялікай зале, а ў высокіх вокнах яшчэ свяціла яркае сонца, і заўсёды, як мы падыходзілі ў яго залацістыя прамені, нас фатаграфавалі прыезджыя з Мінска карэспандэнты.

Антон стаяў збоку. Я заўважыла яго яшчэ з кругу.

У час перапынку ён падышоў да мяне і сказаў:

— Я лічу гэта лішнім з твайго боку.

— Што? — здзівілася я.

— Тое, што ты робіш, — пакрыўджана сказаў Антон:

— А што-ж усё-такі?

— Тое, што ты робіш.

— Падумаеш! Тое, як я паступаю, няхай застанецца пры мне, — адказала я. — У мяне свае пераконанні, у цябе — свае.

— Глядзі, ці добра гэта? — з дакорам кінуў Антон.

— Падумаеш! — адказала я.

Мы разышліся, але чамусьці з гэтай мінуты мне пачалі не падабацца фотарэпарцёры, якія хадзілі за мной.

Госці начавалі ў Парэччы.

Шмат разышлося па хатах, паглядзець, як жывуць калгаснікі. А бацька запрасіў Лю Лі-фу. Антон стаяў на ганку клуба, калі, сумысля, не гледзячы на яго, я пайшла з бацькам і Лю Лі-фу па вуліцы.

Звечарэла, а потым зусім стала цёмна.

Мне не хацелася чакаць слоў «На гэтым Парэцкі радыёвузел сваю работу заканчвае», і я выйшла ў кветнік, села на лаўцы.

Ёсць такія ціхія ночы ў канцы лета, калі ўжо не пяюць птушкі. Усё неяк засынае ў даспяванні. Пахнуць яблыкі. А па небе, глядзіш, то там, то там падаюць зоркі... Ярка гарыць электрычнасць, і сюды, у гародчык, калі прыгледзішся, прамень ад пераменнага току нашага рухавічка падае з пульсаваннем. У хаце бацька, Лю Лі-фу і хлопец-перакладчык. Я чую іх размову, схаваўшыся ад святла акна між вяргінь на лаўцы.

Лю Лі-фу апавядае пра Карэю. Ён быў стралком-знішчальнікам. З дому ён атрымліваў пісьмы. Дарагі сынок, — пісала яму маці. — Народная ўлада вельмі клапоціцца аб нас. Цяпер няма ніякай недастачы. Я толькі думаю аб тым, ці храбра ты змагаешся з ворагам. Напішы мне аб гэтым. І Лю Лі-фу адпісаў, як аднойчы на яго пікіравалі амерыканскія бамбардыроўшчыкі. Ён збіў аднаго — «лятаючую крэпасць». Толькі выбухам бомбы яго скінула са скалы, на якой ён прыладзіў сваю агнявую пазіцыю.

— Малайчына! сынку! — чуўся бацькаў голас.

Я ўсё гэта слухала і думала, што яшчэ мала мне давялося пабачыць свету. У вайну мяне толькі адзін раз пасылалі сувязной на вёску... Што я бачыла пасля вайны? Ездзіла два разы ў Мінск. Я з гараччу думала, што яшчэ ніколі не была ў Маскве.

Так разважаючы, пазіраючы на неба, я раптам пачула шорах, крокі па вуліцы. Нехта падкрадаўся да плоту нашага кветніка. «Гэта Воўка, — здагадалася я. — Ну, няхай лезе, я яго спаткаю!»

Але да плота падышоў, стаў на ніжнюю жэрдку і, выцягнуўшы шыю, пачаў прыслухоўвацца і прыглядацца ў акно, вы ведаеце хто? Антон. Я ўся сціснулася, калі пазнала яго. Мне зрабілася горача. Гэтага я ад Антона не чакала. Мы заўсёды развітваліся на вуліцы, каля клуба, і пад акном нашага дома ён ніколі не быў.

Я ўстала. За вяргінямі ён мяне не бачыў, і, раптам, у цемры, мы апынуліся адзін супраць другога.

— ...Іх тут быў цэлы гарнізон... Эсэсаўцы! — чуўся голас бацькі.

Мне хацелася не хвалявацца, і я загаварыла спакойна.:

— Каго ты падслухоўваеш?

— Надзя, я... — збянтэжыўся ён. — Гэта ты?..

— Падглядаеш?

— Надзя, паслухай... Ціха!

Нешта ёкнула ў мяне вось тут, і я сказала:

— Эх ты! А яшчэ заняткі праводзіш! Лекцыю чытаў: «Маральны воблік маладога чалавека нашага часу»... Ага?

— Надзя! — хацеў ён наблізіцца да мяне.

— Ідзі прэч! — гнеўна сказала я. — Як табе не сорамна?!

Мне было крыўдна. А ён стаяў. У мяне нехапала настойлівасці яго далей праганяць. Тады я кінулася ў светлы промень акна, да варотцаў у кветніку.



У снежні споўнілася дваццацігоддзе творчай дзейнасці Беларускага дзяржаўнага ордэна Леніна тэатра оперы і балета.
На здымку: будынак тэатра ў Мінску.

На дварэ ён дагнаў мяне. Крануў за плячо, але я ўдарыла яго па руках. Я пабегла ў сенцы, усхваляваная ўвайшла ў хату, і таму з гасцямі была нядоўга.

На гарачыя летнія дні я зрабіла сабе пасцелю ў каморы. Вось тут я схавалася і лягла. Там, бывала, назапасіўшы днём першых вішань, першых яблыкаў, я, звычайна, перад сном брала іх у рот і каштавала. Цяпер-жа мне было не да іх. Я доўга-доўга не магла заснуць.

Назаўтра госці ад'язджалі. Як і сустракаць, на развітанне сабралося ўсё сяло. Дзеці даведаліся, як па-кітайску гучыць наша «да пабачэння», і цяпер, звяртаючыся да іх, казалі:

— Цзяй-цзянь!

— Цзяй-цзянь! — адказалі госці, беручы іх на рукі.

Кожнаму з нас хацелася зрабіць гасцям які-небудзь падарунак. Аньдуньскай ткачысе я падаравала рушнічок са сваёй вышыўкай. Бацька падараваў Лю Лі-фу фотакартачку на памяць. Каця паказала кнігу «Сонца над ракой Саньгань», і на ёй зрабілі надпіс: «Над вашай ракой Парэчкай яшчэ ярчэй свяціць сонца».

З кветкамі праводзілі мы іх у дарогу. Букетамі напакавалі машыны. Паціскаючы рукі, Лю Лі-фу развітаўся з дзяўчатамі і са мною. Толькі за адны суткі мы сталі так добра знаёмымі! І пакуль не схаваліся з вачэй чырвоныя аўтобусы, мы стаялі, махалі кветкамі, глядзелі ім услед.

— Ты не бачыла, які падарунак у Антона?— запыталася ў мяне Люба. — Кажуць, яму падаравалі госці нешта асаблівае. Хадзем паглядзім! Ён на радыёвузле.

Але я не пайшла. Мне было крыўдна з ім сустракацца. І пакуль гэтая крыўда адлягла, я не ведаю, колькі прайшло часу.

У той дзень, як мы закончылі слаць лён, я шукала Кандрата Баравіка. І нечакана ля клуба спаткалася з Антонам. Ён не то здзівіўся, не то спалохаўся. Я хацела не звяртаць на яго ўвагі, але ён мяне зачапіў.

— Надзя, куды ты ідзеш?

Я спынілася, але нічога не адказала... Я бачыла, як ён хвалюецца.

— Надзя, абсалютна не разумею, што між намі адбываецца. Інтрыга нейкая!.. Ну, ты прабач мне. Я... нічога благога не думаў. Я ішоў да цябе. Больш так ніколі не будзе...

Я маўчала.

— Надзя, зайдзі на вузел... Паглядзі, які мне падарунак пакінулі кітайскія госці... Ну, зайдзем!

Бывала, я заходзіла туды, хоць на дзвярах радыёвузла антонавай рукой былі напісаны словы: «Пабочным уваход сурова забараняецца!!» Там, у невялічкім пакойчыку, стаяла апаратура, чатыры бліскучыя пульты, і столік. Я ўвайшла і адразу ўбачыла на стале талеркі з яблыкамі. Вялікія, спелыя чырвоныя антонаўкі ляжалі на трох талерках. Дык вось што! Ён хаваў іх!.. Сапраўды, на яблыках, палежаных, пахучых, былі ружовыя палоскі, прасветы, як некалі на пялёстках цвету.

— От гэта яны пакінулі, — хвалюючыся, сказаў Антон. — Тры талеркі.

Я ўзяла адзін яблык, другі, і пад імі, на дне талеркі, паказаліся кітайскія ўзоры. Розныя малюнкі. На адной: блакітна-прамяністае неба і птушкі. Пасярэдзіне другой — кірка з малатком. А на трэцяй — дзяўчына і хлопец. Навокал узоры, узоры, узоры...






**Вагаўшчыца станцыі Орша-Усходняя, комсамолка Святлана Паўленка. Выдатнае выкананне сваіх службовых абавязкаў яна спалучае з работай намесніка сакратара комсамольскай арганізацыі.**

Фота А. Дзітлава.










**Заканчэнне сёлетняга сельскагаспадарчага года ў нашай рэспубліцы азнаменавалася раённымі і абласнымі сельскагаспадарчымі выстаўкамі. Яны з'явіліся месцам перадачы вопыту лепшых хлебаробаў, важным этапам на шляху да няўхільнага ўздыму соцыялістычнай сельскай гаспадаркі.**

На здымках: **На Мінскай абласной сельскагаспадарчай выстаўцы:**

**1. Калгасніца-комсамолка Надзежда Дубовік (калгас «Новы быт» Мінскага раёна) дэманструе капусту, якая вырашчана на балоце. Ураджай капусты склаў 410 цэнтнераў з кожнага гектара.**

**2. Каля стэнда калгаса імя Леніна Дзержынскага раёна. Наведвальнікі з цікавасцю аглядаюць паўтарапудовыя экземпляры гарбузоў, якія з'яўляюцца адной з важнейшых кармавых культур.**

**3. Калгасніца сельскагаспадарчай арцелі «Совецкая Беларусь» Зося Рагоўская і намеснік старшыні калгаса «Сталінскі шлях» Міхаіл Столяр (Мінскі раён) аглядаюць макет тыповага двара, рэкамендаваны для калгасных ферм.**

**4. Адзін са шматлікіх жывых экспанатаў — свінаматка «Варона» са сваімі гадаванцамі. Свінарка калгаса «Чырвоная зорка» Барысаўскага раёна Ліда Казёл атрымала і поўнасцю захавала сёлета ад гэтай свінаматкі 25 парасят.**

**5. Сярод машын, якія накіроўвае горад вёсцы, вялікую цікавасць выклікаў новы трактар «Беларусь».**

Фота А. Дзітлава.






З блакнота карэспандэнта

# Першы тыдзень

У калідоры бразнулі дзверы, і на парозе ярка асветленага пакоя паказаўся высокі малады чалавек у доўгім гумавым плашчы і вялікіх ботах.

— Чорт ведае, што такое! Машыны ад дажджу хоць пад крысо хавай, — з парога пачаў ён.

Людзі, што сабраліся ў маленькім пакоі дзяжуркі, пераглянуліся. Але многім спадабалася такая незвычайная манера ўступаць у гутарку з незнаёмымі людзьмі.

Малады чалавек, між тым, прадаўжаў выказваць сваю думку аб вельмі важным для яго пытанні.

— Вы разумееце, што значыць галоўны інжынер МТС?! — Ён падумаў з хвіліну, відаць, падбіраючы больш удалае параўнанне. — Гэта, калі хочаце, універсальны ўрач. Ён не толькі лечыць, але і папярэджвае розныя захворванні. А вось у нас паспрабуй, папярэдзь гэтыя захворванні, калі ўся тэхніка пад адкрытым небам!

Ён выцягнуў пратабак, пачаставаў нас «Беламорам», закурыў сам і, з асалодай зацягваючыся, прадаўжаў абурацца:

— Заўтра я з ім інакш пагавару. Мяне не супакоіш тым, што ўсё хутка будзе. Хто-б дазволіў, каб заводскія станкі на дажджы іржавелі? А тут гэта — звычайная справа. Ды якія машыны — самай новай канструкцыі, а на іх дождж, пыл, снег! І яшчэ супакойваюць. Не, паважаныя, выбачайце! Заўтра будзем гаварыць па-другому.

— А вы-ж адкуль будзеце? — спыталіся ў яго.

— З Магілёва прыехаў. Буду галоўным інжынерам у МТС. Марыў адразу-ж узяцца за навядзенне парадку ў майстэрнях, за рамонт, а пачынаць трэба ўсё спачатку.

Ён запаліў патухшую папяросу і глыбока зацягнуўся.

— Але першы крок зроблены — працу палюбіў. А гэта самае галоўнае. Вас, можа, здзіўляе: металург, і раптам пайшоў працаваць у сельскую гаспадарку? Я спачатку сам сумняваўся: ці мэтазгодна такая змена прафесіі. Але пабыў у сакратара абкома партыі і многае зразумеў. Узнікла жаданне працаваць сумленна, з агеньком, дапамагчы партыі і народу дабіцца яшчэ большых поспехаў у сельскай гаспадарцы.

Спыніў ён размову таксама нечакана, як і пачаў яе:

— Пайду спаць, заўтра трэба рана ў МТС ісці.

Назаўтра раніцай мы прышлі ў МТС. Шырокі двор яе ўяўляў цэх буйнага завода, але — без даху. Роўнымі радамі, пафарбаваныя ў сіні і чырвоны колер, стаялі камбайны. Ля машын завіхаліся людзі, рабілі рамонт.

— Вам інжынера Кліксак? Аляксандра Іванавіча? Спазніліся крыху. Толькі што паехаў на поле да трактарыстаў. Ён на месцы сядзець не любіць. Можа з дырэктарам пагутарыце?

Дырэктар МТС Даніла Феафілавіч Падабед сядзеў у кабінеце і перагортваў нейкія паперы.

Па тым, як раскрываў і закрываў ён папкі, соўгаў па стале паперы, было відаць, што ў дырэктара толькі што была абяцаная ўчора інжынерам размова.

— Падмацаванне, кажаце? Так, прышло. Спраў? Многа. Гаражы?.. Вось-жа, вось, самі падумайце! Людзі патрабуюць, а грошай няма. Марудзяць у вобласці. Я да іх дабяруся!..

Гэта была ўжо думка інжынера.

Разгаварыліся, і дырэктар з захапленнем пачаў расказваць пра інжынера.

— Літаратуры сельскагаспадарчай многа прывёз. Значыць, па-сур'ёзнаму ўсё думае рабіць, а не так сабе. Добры чалавек. Але неспакойны. Хвіліны не ўседзіць без справы.

Неўзабаве перад ганкам спыніўся «газік».

— Вось і ён прыехаў, — сказаў дырэктар.

Верны сваёй прывычцы, інжынер пачаў проста з парога:

— Ну, Даніла Феафілавіч, паглядзеў я, як зябліва падымаюць. Гэта-ж шкодніцтва! Трэба дваццаць сантыметраў глыбіні, а там — крыху больш дзесяці. Толькі глебу псуюць! Я гаварыў трактарыстам, але, думаю, трэба іх выклікаць сюды і пагаварыць па-сапраўднаму. Ды і аграномы не сочаць за якасцю ворыва. І вось яшчэ што, — Аляксандр усміхнуўся, успомніўшы, напэўна, нядаўнюю размову з дырэктарам. — Скардзяцца рабочыя. Рамонт інтэрната не пачынаўся, паліва няма, лесаматэрыял не падвезены. Зіма-ж не за гарамі! Трэба вырашаць усе гэтыя справы зараз-жа.

— Ну, добра, добра. Збярэмся вечарам, пагаворым, — адказаў дырэктар, запісваючы нешта ў блакнот.

— Можа, пазнаёміцеся з нашай гаспадаркай? — звярнуўся інжынер. — Пройдзем!

Мы пайшлі. Інжынер упраўляўся адказваць на мае пытанні, гаварыць з рабочымі, аддаваць распараджэнні.

— Справа ідзе, хоць і са скрыпам. Яшчэ не заўсёды рамонт высокаякасны. Але я ні адной машыны не прыму, калі заўважу якія-небудзь непаладкі. Прывучаць трэба людзей да акуратнасці. Памятаю, зайшоў першы раз у майстэрню МТС. Прывітаўся, прадставіўся, ну, і разгаварыліся. Хлопцы добрыя і працуюць нішто, але які беспарадак! Дэталі раскіданы, інструмент — дзе папала валяецца, кругом бруд...

«Ну, таварыш галоўны інжынер! — пытаюцца ў мяне. — Як?»

«Дрэнна, — кажу ім. — Гэта-ж не майстэрня, а хлеў».

Бачу, не спадабалася хлопцам, адразу змоўклі, надзьмуліся.

«Затое добра працуем, — адказаў за ўсіх Уладзімір Ступакоў. — Адразу за ўсім не ўгледзіш».

Прышлося пасароміць, пра завод расказаць, ды заадно загадаць парадак да заўтра навесці. І што вы думаеце? Падзейнічала. Прышоў назаўтра, — не пазнаў майстэрню. Усё кругом бліщчыць, інструмент ляжыць на месцы. Хлопцы ўсміхаюцца.

«Дружым, таварыш галоўны інжынер?»

«Дружым, таварышы!» — адказваю.

Вось так і працую. Сем дзён ужо, як прыехаў. Не думайце, гэта вялікі стаж! А заўтра ў Клімавічы, у міжраённую майстэрню паеду. Недобраякасна там рамантуюць трактары. Скаргаў шмат. А потым, — Аляксандр усміхнуўся, — па сям'ю паеду. Сумаваць пачаў.

П. ШАЎРОЎ.

Хоцімская МТС Магілёўскай вобласці.

Міхась ВАСІЛЁК

## Восень

Адзвінеў даўно калоссем
Поля роднага прастор...
Па канве зялёнай восень
Залацісты тчэ узор.

Не дрыжыць лісцём асіна,
Апусцелі паплавы.
Над зямлёю вострым клінам
Пралятаюць журавы.

Сумны крык...
Шкада увосень
Гоні родныя кідаць,
Дзе смяецца неба просінь
І квітнее ў сонцы даль,

Дзе гарэлі на узлессі
Піонерскія кастры,
Дзе чуваць аб міры песні,
Смех шчаслівай дзетвары...

Не сумуйце!..
Будзем зноў мы
Па вясне вас сустракаць...
Гулам трактараў знаёмым,
Новай песняю вітаць!

... Адзвінеў даўно калоссем
Поля роднага прастор...
Па канве зялёнай восень
Залацісты тчэ узор.

Паўлюк ПРАНУЗА

## Толькі-б ты адпачывала

Прыцемкам прышла ты з поля
Ад камбайна, ад штурвала...
Ля акна маўчаць таполі,
Толькі-б ты адпачывала.

Выплыў месячык прыгожы,
Яго воблачка схавала.
Вецярок дыхнуць не можа,
Толькі-б ты адпачывала.

Рэчка ўецца недалёка
І не плёсне ў бераг хваляй.
Ціш маўклівая навокал...
Толькі-б ты адпачывала!

Калі гнаў аўтамашыну
Я ў гараж, не даў сігнала,
Ход прыцішыў на хвіліну,
Толькі-б ты адпачывала.

Мікола АРОЧКА

## Трактарыст

Згасаюць на досвітку зорак агні,
А фары не гаснуць на полі.
Багата у свежай раллі цеплыні,
А ў хлопца — энергіі болей.

Яму па-душы быць за гэтым рулём
І класці раллю за машынай.
Яму па-душы ў гэту ноч навылёт
Маторам грымець па лагчынах.

Ды гаснуць сузор'і і стыне ралля,
Слабеюць і сілы, вядома...
Натруджаны рукі за ноч ад руля,
І цела адольвае стома.

Спыніць-бы машыну, прылегчы на дол
Ля плуга ў зацішнай разоры.
Хай ранак збірае ў чырвоны прыпол
На ўсходзе паблеклыя зоры.

Спыніўся, сышоў ён на свежы загон —
Ралля, нібы сэрцам, сагрэта.
І хлопцу было даражэй усяго
Глядзець на ўзараны палетак.

В. ДАНІЛЕВІЧ

# Анатоль Юлін



Анатоль Юлін.

Іх было трое: Літуеў, Лунёў і Юлін. І ўсе — совецкія спартсмены. Загарэлыя, дужыя, усхваляваныя, яны стаялі на п'едэстале гонару Бухарэсцкага стадыёна. На трыбунах грымелі апладысменты. Шчыра, ад усяго сэрца, віншавалі жыхары румынскай сталіцы совецкіх лёгкаатлетаў, якія занялі першае, другое і трэцяе месцы ў бар'ерным бегу на 400 метраў.

Асабліва радасным быў той дзень для Анатоля Юліна. Як толькі пераможцы пакінулі поле стадыёна, да яго падышоў адзін з таварышаў:

— Анатоль, як завуць твайго бацьку?

— Іван Ягоравіч. А што?

— А вось што, — таварыш Юліна разгарнуў газету і ўголас прачытаў: — «За доўгую і бездакорную працу на чыгунцы ўзнагародзіць Івана Ягоравіча Юліна ордэнам Леніна».

Вярталіся на Радзіму. Таварышы распытвалі ў Юліна аб тым, як жыве, працуе яго бацька, і ці не думае Анатоль зараз, узрадаваны, заехаць у Тулу.

Усхваляваны, Анатоль расказваў:

— Трыццаць год працуе мой стары на чыгунцы. У апошні час — брыгадзірам участка. І што вы думаеце, — увесь час калектыў участка трымае пяршынства на Дубінскай дыстанцыі Маскоўска-Курскай чыгункі. Люблю бацьку! Ёсць, ведаеце, у ім нешта такое, што блізка нам, маладым, — напорыстасць, задор, вера. І яшчэ — дружбак, шчыры, верны...

— Ды ты, Анатоль, і сябе тут пад шумок хваліш, — сказала адна з дзяўчат.

У купэ засмяяліся. Анатоль сарамліва апусціў вочы, пачырванеў.

Каля Юліна сядзеў Лунёў. Ён паклаў сябру на плячо руку, ласкава сказаў:

— Не ведаю твайго бацькі, Анатоль, але веру — добры ён у цябе! — і, зірнуўшы на усіх, дадаў: — Прыедзеш дамоў, павіншуй Івана Ягоравіча ад усіх нас, пажадай здароўя і поспехаў у працы...

Поезд ішоў на ўсход. Анатоль Юлін сядзеў ля акна, за якім змяняліся пейзажы роднай зямлі. У думках спартсмена паўставалі яркія малюнкі яго жыцця.

Анатолю Юліну 24 гады. Ён скончыў 8 класаў сярэдняй школы ў Туле. Потым завочна вучыўся ў Новасібірскім тэхнікуме фізічнай культуры. А ў гэтым годзе закончыў Беларускі дзяржаўны ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга інстытут фізічнай культуры.

Спортам Анатоль Юлін пачаў займацца яшчэ ў школе. У 1943 годзе, пасля ліквідацыі нямецка-фашысцкага акружэння Тулы, у горадзе адбыліся спаборніцтвы на пяршынства тульскіх школ. На гэтых спаборніцтвах Анатоль Юлін паказаў сябе здольным спартсменам. Ён заняў два першыя месцы: па прыжках у вышыню і даўжыню і другое месца — у бегу на 100 метраў.

Дома, радасна паведамляючы бацьку аб перамогах, Анатоль сказаў:

— Цяпер Надзя паганяецца... Верх мой! А то заганарылася: я — спартсменка!

Справа ў тым, што сястра Юліна — Надзя неаднаразова выходзіла пераможцам у спаборніцтвах заводскіх фізкультурнікаў. А дома пасля спаборніцтваў яна дапякала Анатоля такімі размовамі:

— Ты мастак з чужых стрэх на лыжах з'язджаць, а як патрэбна спартыўную чэсць школы адстаяць — дык у кусты! Няхай, моў, другія гэтую чэсць адстойваюць, а я потым буду хваліцца: «Чулі, як каманда нашай школы першае месца ўзяла!» Анатоль апраўдваўся але ведаў: сястра кажа праўду. І пазней ён сур'ёзна ўзяўся за авалоданне рознымі відамі спорту.

Усхваляваны сваімі першымі поспехамі, Анатоль заглядваў бацьку ў вочы, чакаў, што ён скажа.

— Малайчына, сынок, хвалю! — сказаў Іван Ягоравіч, і, пачакаўшы, дадаў: — А на сястру злуешся дарма. Надзя хоча табе дабра, таму і дакарае, а за што — сам ведаеш. Нельга быць адразу спартсменам і разам з тым, скажам, — ліхачом. Зразумеў? Ну, вось і добра!

Анатоль Юлін цвёрда запомніў: ліхацтва, рызыка, надзеі толькі на свае фізічныя сілы — усё гэта не можа быць трывалай асновай для сур'ёзных перамог. Бездакорная тэарэтычная падрыхтоўка, пастаянная трэніроўка, перайманне вопыту выкладчыкаў, трэнераў, лепшых спартсменаў — вось шлях, па якім трэба ісці, калі ён хоча быць сапраўдным спартсменам.

Зімой 1944 года Анатоль удзельнічаў у спаборніцтвах па лыжнаму спорту на пяршынства школ Тулы і заняў першае месца. Выкладчык Васіль Мікалаевіч Папоў сказаў тады яму:

— Анатоль, табой цікавіцца майстар спорту Дзмітрый Сцяпанавіч Галавін. Перайсці-б табе да яго трэніравацца. Як думаеш?

Анатоль згадзіўся. Пачаліся трэніроўкі, па ўсіх правілах: бег, гімнастыка, хадзьба. Спрактыкаваны трэнер выхоўваў юнака загартаваным, валявым, сумленным. На першых-жа абласных спаборніцтвах Анатоль Юлін апраўдаў надзеі свайго старэйшага таварыша: ён прайшоў дзесяць кілометраў за 39 мінут. Ніхто з другіх лыжнікаў не паказаў лепшага выніку. Юнаку быў прысвоены першы спартыўны разрад па лыжнаму спорту.

Аддаючы многа часу лыжам, Юлін не пакідаў і лёгкай атлетыкі. У гэтым праявілася разумная пастаноўка выхавання юнака трэнерам. Вопытны спартсмен і настаўнік, Дзмітрый Сцяпанавіч Галавін ведаў, што яго выхаванец валодае незвычайнай сілай, і таму, паказаўшы сябе добрым лыжнікам, ён абавязкова павінен у будучым паказаць сябе і выдатным лёгкаатлетам. І трэнер не памыліўся.

Праз адзін-два гады Анатоль Юлін на пяршынстве па лёгкай атлетыцы РСФСР заняў у бегу на 800 метраў трэцяе месца з вынікам 2 мінуты 4,4 секунды. Гэтым спаборніцтвам папярэднічала настойлівая трэніроўка, пастаноўка правільнага дыхання, знаёмства з тэхнікай лепшых бегуноў краіны.

На падрыхтоўчым зборы да пяршынства краіны па лёгкай атлетыцы Юлін пазнаёміўся з Віктарам Якубоўскім — чэмпіёнам СССР сярод юнакоў па бегу на 800 метраў.

Пасябраваўшы з Анатолем, Віктар аднойчы сказаў яму:

— Я вось бачу, як старанна ты капіруеш мой стыль. Вельмі добра! Але гэтага яшчэ мала. Разумееш? Табе трэба кожны мой рух зрабіць сваім, каб ён ужыўся ў табе, у тваіх мускулах, у тваім дыханні, як твой уласны.

Якубоўскі і Юлін разам распрацавалі трэніровачны рэжым і на працягу ўсяго збору дакладна выконвалі яго. Сяброўства з Віктарам прынесла Анатолю вялікую карысць. Ён адчуў, як шчырыя парады сябра намнога палепшылі яго спартыўнае майстэрства. На ўсесаюзных спаборніцтвах, якія адбыліся ў горадзе Харкаве, ён заняў у бегу на 800 метраў трэцяе месца, прайграўшы толькі Якубоўскаму і Касаткіну.

У 1948 годзе на пяршынства краіны па лёгкай атлетыцы малады, здольны спартсмен у бегу на 400 метраў з бар'ерамі дабіўся выніку, роўнага норме майстра спорту СССР. Яму прысвоілі гэтае пачэснае званне, якое ён з чэсцю апраўдаў у сваёй далейшай спартыўнай практыцы.

У гэтым-жа годзе Анатоль Юлін паступае на першы курс Беларускага дзяржаўнага інстытута фізічнай культуры. Паспяхова авалодваючы тэорыяй, майстар спорту прадаўжае трэніроўкі пад кіраўніцтвам вядомага трэнера Барыса Барысавіча Левінсона.

На фестывалі ў Будапешце каманда совецкіх спартсменаў заваявала палову ўсіх медалей спартыўных спаборніцтваў. На гэтых спаборніцтвах чэсць совецкага спорту адстойваў і Анатоль Юлін. Ён заняў чацвертае асабістае месца ў бегу на сваю любімую дыстанцыю — 400 метраў з бар'ерамі, прайграўшы толькі тром совецкім сябрам.

На чарговых усесаюзных спаборніцтвах па лёгкай атлетыцы, якія праводзіліся ў Мінску, Юлін абыйшоў на дыстанцыі 400 метраў выдатнага бар'ерыста масквіча Ільіна і заняў трэцяе месца.

Упорная і разумная трэніроўка па ўдасканаленню свайго спартыўнага майстэрства прыносіць Анатолю Юліну ўсё новыя і новыя поспехі. І куды-б ні паслала яго Радзіма, ён высока трымае чэсць совецкага спартсмена. На пятнаццатых алімпійскіх іграх, якія праводзіліся ў Фінляндыі, ён заняў чацвертае месца ў бегу з бар'ерамі на 400 метраў.

Затым — Швецыя, Нарвегія, зноў Румынія... І ўсюды добры вынік: Юрый Літуеў — першае месца, Анатоль Юлін — другое месца.

Нядаўна двое сяброў разам з дэлегацыяй совецкіх лёгкаатлетаў пабывалі ў венгерскіх спартсменаў. Гэтая паездка прынесла совецкаму спорту вялікую перамогу: Літуеў пабіў сусветны рэкорд у бар'ерным бегу на 400 метраў, які з 1934 года належаў амерыканцу. Віншуючы пераможцу, Анатоль Юлін, якому па выніках бягучага года належыць другое сусветнае месца ў бегу на гэтую-ж дыстанцыю, сказаў:

— Рады, шчыра рады за тваю перамогу! Але-ж не забывай, сябра, што на ўсіх спаборніцтвах ты адчуваеш за сабой маё дыханне.

Юрый Літуеў адказаў на гэта:

— Ну што-ж, твая перамога, як і мая, будзе новай перамогай нашай Радзімы.

Алег ЛОЙКА

## Маці

Пачнеш расказваць, як цябе ў дарогу
Збірала маці, кладучы ў мяшок
Хлеб чорны, сала тонкага кусок,
І як яна са смутнаю трывогай
У развітальны час табе казала,
Што дома непатрэбна гэта сала,
Што дома можна так, не тое
ў свеце, —
І вочы твае дзіўным бляскам свецяць.

А мо' яна той самаю хвілінай,
Управіўшыся каля хаты, недзе
Спяшаецца забегчы да суседзяў,
Каб да цябе пісьмо ёй адпісалі,
Каб хустку паглядзелі, каб сказалі,
Што самы лепшы густ — у яе сына.

Пачнеш расказваць...
Ціха ў інтэрнаце,
І кожны ўспамінае сваю маці.

* * *

Зрэдку скрыпне дзе снег
пад палоззямі...
Ціш,
Нішто яе не скалыхне.
Надакучыла ноччу марознаю
Вішням сніць аб далёкай вясне.

Прачакаліся,
Покі разбудзяць іх
Тыя ветры,
Што з поўдня лятуць, —
І таму зацвілі вішні ў студзені.
Белым інеем вішні цвітуць.

Марк СМАГАРОВІЧ

## На моры

На дно марское сонца тоне,
Пазалаціўшы шапкі гор,
А я ад берагу на чоўне
Плыву ў нязведаны прастор.
Абвеянага пахам бору,
Мяне, далёкага гасця,
Калыша ўспененае мора,
Як маці роднае дзіця.
Я зведаў вабнасць новых даляў
І, не стрымаўшы пачуццё,
Наперад рвуся супраць хваляў —
Люблю бурлівае жыццё!

Кастусь ЦВІРКА

## Камбайнерка маладая

Камбайнерка маладая
Удаль зірнула з-пад рукі —
Ні канца жытам, ні краю
Не відно ва ўсе бакі.

Колькі песень тут дзяўчаты
Праспявалі на зары...
Дык спяшай, камбайн, без страты
Песні шчасныя збяры!

І ў прасцяг, вятрам адкрыты,
Карабель свой павяла...
Так праз бункер мора жыта
За тры дні пераліла.

І. КАЛІНАЎ

# ШЧАСЛІВАЕ ПАКАЛЕННЕ НОВАГА КІТАЯ

### АБ ІХ КЛАПОЦІЦЦА ПАРТЫЯ І НАРОДНЫ ЎРАД

Нядаўна кітайскі народ адзначыў сваё вялікае нацыянальнае свята — чацвертую гадавіну з дня абвяшчэння Кітайскай Народнай Рэспублікі. Разам з кітайскім народам гэтую гістарычную дату адзначыў савецкі народ, усё прагрэсіўнае чалавецтва.

Народная рэвалюцыя карэнным чынам змяніла лёс Кітая, накіравала жыццё пяцісотмільённага народа гэтай краіны па новым шляху, нанесла магутны ўдар па міжнароднаму імперыялізму і яшчэ больш умацавала лагер міру, дэмакратыі і соцыялізма.

Пад кіраўніцтвам сваёй слаўнай Комуністычнай партыі кітайскі народ паспяхова будуе новае жыццё. Ажыццёўлена аграрная рэформа — адна з асноўных і цяжэйшых задач народнай рэвалюцыі. Шпаркімі тэмпамі развіваецца прамысловасць.

Усебаковы прагрэс Кітайскай Народнай Рэспублікі выклікае пачуццё глыбокага задавальнення і гордасці ўсяго прагрэсіўнага чалавецтва.

Усе гэтыя перамогі звязаны з шырокай, бескарыслівай брацкай дапамогай Народнаму Кітаю з боку Савецкага Саюза. Заснаваная на дружбе, на агульным імкненні двух вялікіх народаў да міру і супрацоўніцтва, савецкая дапамога з'яўляецца сведчаннем новых, роўнапраўных адносін, якія арганічна ўласцівы краінам непераможнага лагеру дэмакратыі і соцыялізма.

Жыватворчы ўплыў зрабіла народная рэвалюцыя на лёс падрастаючага пакалення. Яна зусім перайначыла яго жыццё. Няма больш беспрытульных у гарадах Кітая. Народная ўлада паклапацілася аб дзецях у першыя-ж дні перамогі: яна дала ім хлеб, жыллё і школу. Дзецям і юнакам ужо не пагражае катаржная праца на фабрыках, жыццё ў місіянерскіх прытулках, дзе зневажаліся пачуцці чалавечай годнасці і любві да радзімы.

Хутка расце сетка дзіцячых устаноў. Колькасць ясляў толькі на прадпрыемствах узрасла ў параўнанні з 1949 годам больш чым у 20 разоў. У Кітаі налічваецца зараз больш 30 тысяч медыцынскіх устаноў па ахове здароўя маці і дзіцяці. Асаблівая ўвага надаецца ахове здароўя маці і дзіцяці ў раёнах, населеных нацыянальнымі меншасцямі. Туды накіраваны тысячы ўрачоў, акушэрак і медсясцёр.

Дашкольнае выхаванне ў новым Кітаі развіваецца на аснове вопыту савецкіх дашкольных устаноў. У дзіцячых садах краіны выхоўваюцца сотні тысяч дзяцей. У буйных гарадах створаны ўзорныя дзіцячыя сады і арганізаваны метадычныя кабінеты па дашкольнаму выхаванню.

### АСВЕТА — ДЛЯ ПРАЦОЎНЫХ

Перамога народнай рэвалюцыі ў Кітаі ўпершыню ў гісторыі краіны стварыла ўмовы для паспяховага ажыццяўлення культурнай рэвалюцыі і адкрыла шырокія магчымасці кітайскім дзецям для атрымання асветы.

Зараз у Кітайскай Народнай Рэспубліцы налічваецца звыш 550 тысяч школ, у якіх навучаецца больш 58 мільёнаў чалавек.

Цэнтральны Народны Урад Кітайскай Народнай Рэспублікі надае асаблівую ўвагу навучанню дзяцей нацыянальных меншасцей, для якіх раней былі зачынены дзверы школ. Зараз у краіне працуюць тысячы пачатковых і сярэдніх школ, і лік іх з кожным годам расце. У іх навучаецца звыш мільёна чалавек. Каля дзевяці тысяч студэнтаў налічваецца ў пяці інстытутах.

Развіццё народнай асветы непарыўна звязана з пераўтварэн-

На Аньшаньскім металургічным камбінаце (Кітайская Народная Рэспубліка) адкрыты яслі і дзіцячыя сады. Маці-работніцы працуюць каля станкоў, а іх дзеці заўсёды накормлены і дагледжаны. Пасля работы яны заходзяць па іх і на аўтобусе, выдзеленым адміністрацыяй камбіната, накіроўваюцца дадому. На здымку: работніцы з дзецьмі каля аўтобуса.



нем старой сістэмы асветы. Уведзена новая праграма навучання, прасякнутая духам патрыятызма і інтэрнацыяналізма. Новая сістэма асветы ўлічвае дваццацігадовы вопыт, накоплены кітайскімі дзеячамі асветы ў раней вызваленых раёнах Кітая, а таксама багаты вопыт Савецкага Саюза і краін народнай дэмакратыі.

Думкі і пачуцці юных патрыётаў добра выказаў нядаўна вучань другой пачатковай школы горада Пекіна Сунь Цзян. Ва ўкладанні на тэму «Кім я буду, калі вырасту» Сунь Цзян піша:

«Мне хочацца будаваць высотныя дамы, у якіх будуць жыць нашы працоўныя. Мне хочацца пабудаваць такі універсітэт, як у Маскве, такую гідрастанцыю, як у Куйбышэве, такія заводы, як наш Аньшань, такія парты, як порт Тангу. Я хачу разам з таварышамі будаваць новае жыццё на зямлі радзімы, якая стала больш цудоўнай, чым квітнеючы сад».

Перамога народнай рэвалюцыі ў Кітаі шырока адчыніла дзверы вышэйшых навучальных устаноў для дзяцей працоўных. У гэтым навучальным годзе ў Кітайскай Народнай Рэспубліцы прыступілі да заняткаў 220 тысяч студэнтаў — амаль у два разы больш, чым у гады гаміндануаўскага панавання. У краіне шырока разгарнуліся работы па будаўніцтву і пашырэнню вучэбных і жыллёвых памяшканняў вышэйшых навучальных устаноў. У гэтым годзе заканчваецца будаўніцтва трынаццаці інстытутаў. Студэнты ўсіх ВНУ і сярэдніх тэхнічных устаноў забяспечаны дзяржаўнымі стыпендыямі.

Да ведаў і культуры пацягнуліся народныя масы. У рознастайных школах краіны зараз навучаецца сто мільёнаў чалавек. Большасць з іх складае моладзь. 340 тысяч маладых рабочых Шанхая запаўняе па вечарах класы вячэрніх школ, курсаў лікбеза. У школах для дарослых і на курсах лікбеза сталіцы Кітая — Пекіна навучаецца 200 тысяч рабочых. Толькі летась у зімовых школах навучалася звыш 40 мільёнаў сялян; больш паловы іх і зараз працягвае навучанне ў круглагадавых народных школах. Такіх культурных дасягненняў ніколі не ведаў стары Кітай.

У аўтаномным раёне Унутраная Манголія (Кітайская Народная Рэспубліка) па рашэнню ўрада створаны інстытут жывёлагадоўлі і ветэрынарыі, які рыхтуе кваліфікаваных спецыялістаў з мясцовага насельніцтва.
На здымку: студэнты першага курса інстытута на занятках.



У Кітайскай Народнай Рэспубліцы павялічваюцца плошчы чайных плантацый. На здымку: плантацыі паблізу горада Ханчжоу.



Група студэнтаў — прадстаўнікоў моладзі нацыянальных меншасцей Кітайскай Народнай Рэспублікі разглядаюць ілюстраваны часопіс.
Фота Агенцтва Сіньхуа.



## ДЛЯ ПАДРАСТАЮЧАГА ПАКАЛЕННЯ

У Кітаі створана піянерская арганізацыя. Яна налічвае больш 7 мільёнаў чалавек. Піянерская арганізацыя выхоўвае дзяцей актыўнымі будаўнікамі сацыялістычнага грамадства.

Для дзяцей Народны Урад перадаў лепшыя будынкі. У сталіцы Кітая — Пекіне адкрыты Палац піянераў. Ён знаходзіцца ў маляўнічай мясцовасці ў парку Бэйхай. Такія палацы ёсць таксама ў Шанхаі, Кантоне, Харбіне, Мукдэне, Цзіндао, Цяньцзіне.

Маёнткі на марскіх узбярэжжах і ў іншых месцах краіны, якія належалі раней багацеям, выкарыстоўваюцца ў летнія месяцы для адпачынку школьнікаў і студэнтаў.

Як паведамляе кітайскі друк, органы народнай асветы разам з маладзёжнымі і прафсаюзнымі арганізацыямі прыклалі многа сіл для таго, каб дзеці, юнакі і дзяўчаты маглі летам культурна і весела правесці свой адпачынак і ўмацаваць здароўе. Для навучаючыхся створаны дамы адпачынку і санаторыі, працуюць летнія піянерскія і фізкультурныя лагеры. Тут арганізуюцца сустрэчы са знатнымі людзьмі Кітая — вядомымі пісьменнікамі, і вучонымі, Героямі Працы і Героямі Нацыянальна-Вызваленчай Арміі.

Неразлучным другам кітайскіх дзяцей стала кніга. Вялікую дапамогу ў забеспячэнні дзяцей кнігамі аказваюць школьныя і народныя бібліятэкі. У Пекіне для дзяцей адкрыта спецыяльная дзіцячая бібліятэка.

Вялікую цікавасць праяўляюць кітайскія школьнікі да жыцця Савецкага Саюза. Многія вучні школ Кітайскай Народнай Рэспублікі вядуць перапіску са школьнікамі СССР. Яны вельмі любяць кнігі савецкіх пісьменнікаў аб дзецях. На кітайскую мову перакладзена больш 500 назваў кніг савецкіх пісьменнікаў для дзяцей. Асаблівай вядомасцю сярод юных чытачоў карыстаецца «Аповесць пра Зою і Шуру» Л. Касмадзем'янскай. З часу апублікавання гэтай кнігі ў пачатку мінулага года яна разышлася сярод чытачоў шматтысячным тыражом.

«Дарагая мама! — пісалі мацеры Зоі Касмадзем'янскай вучні VIII класа Цяньцзіньскай сярэдняй школы № 2. — Мы хочам ва ўсім следаваць прыкладу Зоі і таму вырашылі назваць наш клас яе іменем. Мы будзем загартоўваць сябе, каб быць такімі-ж стойкімі, як Зоя, быць гатовымі геройчна абараняць сваю радзіму і справу міру ва ўсім свеце».

## У ПЕРШЫХ РАДАХ БУДАЎНІКОЎ НОВАГА ЖЫЦЦЯ

Кітайская моладзь упісала багата слаўных старонак у гісторыю рэвалюцыйнай барацьбы кітайскага народа. Яна ўнесла велізарны ўклад у справу абароны радзімы, у справу захавання міру на Далёкім Усходзе і ва ўсім свеце.

Вялікая барацьба загартавала і выхавала кітайскую моладзь, выявіла мільёны актывістаў. Іменна гэтым тлумачыцца шпаркі рост Нова-Дэмакратычнага саюза моладзі. За чатыры гады колькасць членаў саюза вырасла з 190 тысяч чалавек да 9 мільёнаў чалавек. Саюз выхоўвае моладзь у духу ідэй марксізма-ленінізма і беззаветнай адданасці радзіме, у духу інтэрнацыяналізма. Саюз вучыць моладзь спалучаць справу абароны і будаўніцтва радзімы са справай абароны міру ва ўсім свеце. Ён дапамагае моладзі павышаць культурны ўзровень, пашыраць кругазор.

Нова-Дэмакратычны саюз мабілізуе моладзь краіны на самаадданую працу і ўпартую барацьбу ў імя будаўніцтва новага Кітая, дапамагае партыі выхоўваць юнакоў і дзяўчат у духу патрыятызма і адданасці свайму народу. Ён накіроўвае моладзь па шляху, указанаму правадыром кітайскага народа Мао Цзэ-дунам, — на барацьбу за індустрыялізацыю краіны і паступовы пераход да сацыялізма.

Новы, дэмакратычны лад абудзіў магутную народную ініцыятыву. Мільёны юнакоў і дзяўчат Кітая працуюць на будаўніцтве каналаў, плацін, чыгунак, шасейных дарог, новых фабрык, заводаў, інстытутаў, школ, бальніц і палацаў культуры. Энергія маладых будаўнікоў ніколі яшчэ не была ў Кітаі такой мэтанакіраванай, як сёння.

З вялізным натхненнем і ўздымам прыступіў кітайскі народ у гэтым годзе да ажыццяўлення першага пяцігадовага плана. Моладзь краіны з захапленнем уключылася ў гэтае вялікае будаўніцтва.

Моладзь стала магутнай сілай у будаўніцтве новага жыцця, новага Кітая. Звернуты да моладзі, заклік Старшыні Мао Цзэ-дуна «добра загартоўваць сваё здароўе, добра вучыцца, добра працаваць» знайшоў жывы водгук па ўсёй краіне.

Моладзь выступае ініцыятарам укаранення новых метадаў працы. Расце і шырыцца рух наватараў і вынаходцаў. У вёсцы моладзь актыўна ўдзельнічае ў патрыятычным руху за павышэнне вытворчасці сельскагаспадарчых прадуктаў, у арганізацыі груп працоўнай узаемадапамогі. Толькі на працягу апошняга года звыш 40 тысяч маладых сялян было ўдастоена звання перадавікоў працы.

Новы Кітай ахоплены пафасам вялікага пераўтварэння. Працоўныя рэспублікі паспяхова змагаюцца за выкананне свайго першага пяцігадовага плана, упэўнена ідуць уперад па шляху будаўніцтва новага, шчаслівага жыцця.

# Кніжная паліца

## Нікалай Остроўскі

«Нікалай Остроўскі. Зборнік матэрыялаў», — чытаем мы на вокладцы гэтай кнігі. Часта пры слове «матэрыялы» ўяўляецца сухі пералік фактаў, прозвішчаў, асоб. У гэтай кнізе ўсё інакш. Тут слова «матэрыялы» прадстаўляе сабой жывое слова пісьменніка, яго выступленні, пісьмы, гутаркі, выказванні.

Дакументы, сабраныя ў кнізе, адносяцца да 1925—1936 гадоў — самага цяжкага перыяду ў жыцці пісьменніка. Аднак колькі бадзёрасці і сілы, колькі энергіі і прагі дзеяння ў пісьмах і выступленнях Н. Остроўскага! Кожнае слова пісьменніка, кожны яго зварот да моладзі прасякнуты невычэрпнай жыццёвай энергіяй, гучыць, як заклік да барацьбы за шчасце і радасць, за перамогу.




«Няма нічога больш радаснага, чым праца, — гаворыць Остроўскі ў гутарцы з карэспандэнтам «Праўды». — Сказаць па праўдзе, вельмі хочацца пабіць рэкорд даўгалецця. [illegible]льмі-ж добрае жыццё ў нашай [illegible]не!»

[illegible]ачуццём шчасця, задавальнення [illegible]рачасцю, паўнатой жыцця пра[illegible]ты ўсе пісьмы Н. Остроўскага. [illegible]ытач забывае, што піша гэта чалавек, які прыкаваны хваробай да ложка, які страціў зрок. Чытач чуе голас барацьбіта, будаўніка, актыўнага ўдзельніка жыцця краіны.

Кожная падзея ў жыцці нашай краіны хвалявала Н. Остроўскага, ён заўсёды адгукаўся на яе.

... Вось ён вітае гарнякоў шахты «Цэнтральная-Ірміно» — заснавальнікаў гістарычнага стаханаўскага руху; вось ён пасылае цёплае сяброўскае віншаванне пяцісотніцам Марыі Дземчанка і Марыне Гнаценка; сустракаецца з героямі-лётчыкамі, парашутыстамі, гутарыць з піянерамі.

У аўтабіяграфіі Н. Остроўскага, прыкладзенай да рукапісу першай часткі рамана «Як гартавалася сталь», можна прачытаць сціплы запіс: «Адукацыя — ніжэйшая». Остроўскі не змог атрымаць сістэматычнай поўнай адукацыі. Яму перашкодзіла хвароба. Але і хворы, ён не забываў аб вучобе. З павагай чытаем мы пісьмы аб тым, якую вялікую колькасць кніг прачытаў гэты чалавек, як удумліва вывучаў ён гісторыю, законы грамадскага развіцця. Чалавекам глыбокіх і ўсебаковых ведаў Остроўскі стаў у выніку ўпартай, сапраўды гераічнай працы.

У кнізе сабраны каштоўныя выказванні пісьменніка, якія закранаюць розныя бакі жыцця. Цікавыя яго думкі аб вобліку маладога чалавека краіны сацыялізма, аб шляхах развіцця літаратуры, аб літаратурнай крытыцы. Ён стаіць за крытыку дзейсную, шчырую і смелую. Ён гаворыць: «...хачу сказаць таварышам, якія працуюць на крытычным фронце: выкіньце са сваіх артыкулаў агульныя сказы, абвясціце ім вайну, як абвешчана вайна ўсякаму псаванню мовы. Няхай кожны сказ будзе канкрэтным, а не «наогул».

Асабліва хвалюючым для Н. Остроўскага было пытанне аб тым, якім павінен быць савецкі пісьменнік. Ён патрабуе ад пісьменніка глыбокіх ведаў, вялікай душэўнай чысціні і культуры. Ён гаворыць аб гэтым у тэзісах да выступлення на X з'ездзе комсамола, на з'ездзе пісьменнікаў Азова-Чарнаморскага краю, на сходзе партактыва. Пісьменнік, заяўляе Остроўскі, гэта «баец, настаўнік, трыбун. Чалавек з вялікай літары. Гэта несумненна. Кожны з нас павінен вучыць не толькі сваім словам, але і ўсім сваім жыццём, паводзінамі».

Комсамолка Харчанка пытаецца ў сваім пісьме, навошта пісьменнік так бязлітасна знявечыў свайго героя. Адказваючы дзяўчыне, Остроўскі са здзіўляючай сціпласцю і прастатой, ні слова не гаворачы аб уласным лёсе, расказвае ёй аб жыцці і патрабаваннях мастацтва, аб праўдзе і аб сапраўдным шчасці. Шчасце — у працы, у барацьбе за комунізм!

Мужнасцю, стойкасцю, мэтанакіраванасцю прасякнута і другое надзвычай цёплае, поўнае глыбокага спачування пісьмо. Жанчыну, якая напісала яму аб сваім асабістым горы, Остроўскі не суцяшае агульнымі словамі. Тактычна і асцярожна напамінае ён чалавеку, які звярнуўся да яго за парадай, аб працы, аб дзеянні, аб барацьбе. Глыбокая пераканаўчасць і сіла гучаць у яго словах. І не застаецца сумнення, што такое пісьмо дапамагло чалавеку, падбадзёрыла яго ў цяжкую хвіліну разгубленасці і асабістага гора. «Паглядзіце, якое цудоўнае наша жыццё, — піша ў гэтым пісьме Остроўскі, — якая прывабная... барацьба за новага чалавека. Аддайце-ж гэтаму сваё жыццё, тады сонца зноў сагрэе Вас!»

Пісьмы чытачоў прыносілі Н. Остроўскаму вялікае задавальненне. «Пісьмы чытачоў — самае вялікае маё багацце», — любіў гаварыць ён. І асаблівым шчасцем было для яго атрымліваць пісьмы, у якіх ён бачыў, што герой яго, Паўка, стаў сцягам моладзі, што ў яго вучацца жыць і змагацца, вучацца адданасці радзіме і партыі.

Здзейснілася жаданне пісьменніка. Кніга яго стала падручнікам для моладзі, яна перайшла за межы нашай краіны і зараз надае мужнасці, стойкасці, адвагі маладым барацьбітам розных краін свету.

У зборніку прыводзіцца цікавы дакумент аб тым, як у трыццатыя гады палітзняволеныя Рыжскай турмы вучыліся ў Паўла Карчагіна волі і мужнасці; расказваецца аб славацкіх партызанах, якіх імя гэтага героя натхняла на барацьбу з ворагам.

Выдатны раман Н. Остроўскага ўсхваляваў мноства маладых сэрцаў. Многім юнакам і дзяўчатам ён дапамог выбраць жыццёвы шлях, навучыў дасягаць пастаўленай мэты.

Многія з іх пішуць у музей, расказваюць, як кніга любімага пісьменніка падтрымала іх у цяжкую хвіліну, абудзіла новыя сілы, навучыла быць упартымі і стойкімі.

З хваляваннем чытаюцца пісьмы пяцігорскага школьніка Анатоля Касарукава, медсястры Зіны Тусналобавай, маці Алега Кашавога, рапарты маладых будаўнікоў і рабочых.

Моцныя, працалюбівыя, маладыя, людзі савецкай краіны працуюць па-карчагінску, упэўнена ідуць у жыццё. Іменна такімі хацеў іх бачыць Остроўскі, для гэтага ён жыў і працаваў.

**Р. ПІАТУХОЎСКАЯ.**

«Николай Островский. Сборник материалов». Краевое государственное издательство. Краснодар, 1952 г.
Сборник составлен сотрудниками музея Н. Островского в Сочи — Е. Островской и А. Лазаревой.

## Шчырыя вершы

Ці трэба гаварыць, якую важную падзею ў творчай біяграфіі пісьменніка ўяўляе выхад яго кнігі ў перакладзе на рускую мову, асабліва, калі гэта першая кніга і імя яе аўтара яшчэ зусім невядома або мала вядома чытачу?

Лепшыя вершы маладога беларускага паэта Міколы Аўрамчыка сведчаць, што ён мае права на такую сустрэчу. І тым не менш, кнігу «Совершеннолетие», выпушчаную ў Маскве выдавецтвам «Молодая гвардия», пачынаеш чытаць з хваляваннем. Наколькі правільна падыйшоў паэт да адбору ўсяго лепшага з сваёй творчасці і ці здолелі перакладчыкі данесці гэтае лепшае да рускага чытача?

Кожны, каму даводзілася чуць выступленні Міколы Аўрамчыка на літаратурных вечарах, не мог не звярнуць увагі на тое, што яго вершы маюць добрую якасць: яны вельмі хутка завалодваюць увагай слухачоў. Калі паспрабаваць вытлумачыць прычыну такога непасрэднага «кантакту» паміж паэтам і яго чытачамі, трэба перш за ўсё гаварыць аб прастаце і надзённасці яго вершаў, аб яго імкненні пісаць вобразна, хвалююча і, галоўнае, — шчыра.

Іменна гэтымі якасцямі адразу звярнула на сябе ўвагу нізка вершаў М. Аўрамчыка пра Данбас, надрукаваная ў 1947 годзе. Беларускі паэт гаворыць у гэтых вершах з такой любасцю пра ўсесаюзную качагарку, нібы ён там пражыў усё жыццё і няма для яго мясціны на зямлі, раднейшай за гэту. У тым і сакрэт сапраўднай паэзіі, што яна




не прызнае сярэднеарыфметычнай тэмпературы. Каб чытач перажываў разам з паэтам, кожны яго радок, кожнае слова павінны быць напісаны з такой шчырасцю, нібы ў паэта ў той час, калі ён стварае свой верш, не было нічога больш важнага і хвалюючага, чым гэты верш. Ёсць добрае правіла: бярыся за пяро, каб напісаць верш, толькі тады, калі няма ніякага іншага спосабу для выказвання сваіх пачуццяў. Мікола Аўрамчык строга прытрымліваецца гэтага правіла. Ён піша аб тым, што яго турбуе, што просіцца на паперу з глыбіні душы. Вось чаму яго паэзія не любіць гучных слоў і напышлівых пачуццяў.

Лепшыя вершы М. Аўрамчыка амаль заўсёды сюжэтныя і абавязкова пабудаваны на канкрэтных дэталях. Ідэя ў іх не навязваецца чытачу, а вынікае сама, як пад тэкст, з таго настрою і пачуццяў, якімі прасякнуты вершы. Вось, напрыклад, верш «Белорусская сосна». Паэт расказвае, як прыемна ўдыхаць у штольні пах баравой сасны, як уяўленне яго пераносіць у родныя мясціны, і вузкі няўручны праход раптам пачынае здавацца лясной просекай. Але калі-б толькі гэта ўбачыў і апісаў паэт, наўрад ці сказаў-бы ён штосьці-небудзь новае. Усе гэтыя дэталі служаць для выяўлення больш важнага, і прачытаўшы верш, мімаволі пранікаешся пачуццём гордасці за магутную дружбу савецкіх народаў.

Чым больш канкрэтны верш — тым больш струн чалавечай душы ён закранае, тым большая колькасць людзей знаходзіць выяўленне ў ім сваіх пачуццяў. Мабыць кожны, хто прыгадаў-бы ў памяці той сумны дзень, калі ён даведаўся пра смерць Янкі Купалы, змог-бы назваць дэталі, якія адрозніваліся-б ад тых, што малюе паэт у вершы «В тот день». Тым не менш, гэты верш па-сапраўднаму хвалюе праўдай пачуццяў. Паэт знайшоў дакладныя словы, якія перадаюць суровую напружанасць тых дзён, калі вялікі Купала назаўсёды адыйшоў ад нас:

**Родимый край, твои сыны**
**Не все могли, идя под пули,**
**У гроба в трудный час войны**
**Стоять в почётном карауле.**

**Такие выдались пути,**
**Что под разрывами снарядов**
**Не все смогли тогда придти**
**Из Киева,**
**Из Ленинграда...**

**Ещё лесок стонал от мин,**
**Свинцом землянки обдавало,**
**А нам уж снился новый Минск**
**И в парке — бронзовый Купала.**

Пераклад Я. Хелемскага.

Малады паэт паспяхова авалодвае ўменнем бачыць паэзію ў звычайным і штодзённым. Здавалася-б, што асаблівага можна сказаць пра такую празаічную прафесію, як пастух. Паэтычна адчутая тэма падказала паэту вельмі правільны шлях: ён і не шукае незвычайнага. Герой яго верша «Дядя Максим» прывык да свайго занятку, так палюбіў яго, што ніяк не можа ўявіць сябе на іншым месцы. За сумленную працу любяць яго ў калгасе. Чалавек, назва прафесіі якога раней гучэла як крыўдная мянушка, лічыцца паважаным у вёсцы. А ў гэтым якраз і ёсць паэзія нашага жыцця.

Можна было-б падрабязна гаварыць аб такіх вершах М. Аўрамчыка, як «Мы родились после Октября», «В боевом строю», «Дом I съезда РСДРП», «Над могилой краснодонцев», «Голуби» і інш. Гэта сведчыла-б толькі аб адным — перад намі кніга цікавага паэта.

Справядлівасць патрабуе адзначыць, што ёсць у ёй і творы, напісаныя ніжэй магчымасцей аўтара. Гэта дэкларацыйны, пабудаваны на пераліку таго, што было раней і што ёсць цяпер, верш «Совершеннолетие». Затым — пабудаваны на цытатах з Купалы верш «Слово поэта». У ім ёсць усе літаратурныя атрыбуты: і «голос окрылённый», і «голос звонкий», але няма вобраза вялікага народнага паэта. Гэты твор з'яўляецца для М. Аўрамчыка крокам назад у параўнанні з яго вершам «В тот день». Зразумела, кожны паэт можа пісаць на адну і тую-ж тэму некалькі твораў, але пры гэтым павінна захоўвацца адна абавязковая ўмова: кожны новы твор павінен быць лепшы за папярэдні.

Не варта было ўключаць у кнігу слабы верш «В доме поэта», прысвечаны М. Лермантаву. Да таго-ж, ён вельмі дрэнна перакладзены А. Маркавым. «Хозяин угрюмый», «на бумаге клякса», «почерк нервный» — усе гэтыя дэталі ніяк не адпавядаюць велічнаму вобразу аўтара «Барадзіно».

Яшчэ адна заўвага. М. Аўрамчык залішне часта карыстаецца адзін раз аблюбаваным прыёмам пры разгортванні сюжэта твораў. Звычайна, у яго верш пачынаецца з таго, што лірычны герой успамінае: «Сегодня вновь мне память подсказала» («Москва»); «Мне не забыть» («Другу»); «Мне дня того не позабыть вовек» («В боевом строю»); «В кругу друзей я вспоминаю часто» («Голосование на корабле»); «Они мне часто виделись на марше» («Кремлёвские ели»). Гэтая аднастайнасць адразу кідаецца ў вочы, калі чытаеш вершы адзін за другім.

Зразумела, усе гэтыя недахопы не могуць не ўплываць на агульную ацэнку кнігі. Аднак тое лепшае, што ёсць у ёй, дае магчымасць адчуць сапраўдную паэтычнасць, прастату і шчырасць творчасці М. Аўрамчыка.

**Р. ШКРАБА.**

Микола Аврамчик — «Совершеннолетие». Издательство ЦК ВЛКСМ «Молодая гвардия», Москва, 1953.

# У бабрынай хатцы зімой

Галодны воўк абнюхвае снежны сумёт. Пад ім хаваецца штосьці жывое. Але воўчы нос напаткаў цвёрдую перашкоду. Лапамі звер разгроб снег. Агалілася сучча, змацаванае, як цэментам, зямлёю. Пранікнуць далей праз гэтую моцную сцяну да здабычы, якая схавалася ў хатцы, няма ніякай магчымасці. Драпежнік яшчэ раз уцягнуў у сябе паветра і... панура пабрыў прэч.

Многа звярыных слядоў вядзе зімой да бабровай хаткі. Іх замятае завіруха, потым, па свежым снезе, яны з'яўляюцца зноў. Пах здабычы вабіць да сябе драпежніка, хоць ён і ведае безнадзейнасць сваёй спробы забрацца ў гэты своеасаблівы бастыён. Жыхары абаронены моцнымі сценамі. Не адзін вораг бабровай сямейкі намагаўся разбурыць хатку! Нават мядзведзь спрабаваў на яе сценах сваю сілу, але маленькая крэпасць, складзеная ляснымі будаўнікамі, вытрымлівала любую небяспеку.

Там, унутры, у круглай хатцы шырынёй каля метра і вышынёй да пяцідзесяці сантыметраў жывуць бабры. Звычайна, іх сям'я складаецца, акрамя дарослых баброў, з 4—6 маладых — прыплоду мінулага і гэтага года. Там цёмна — святло ў гэтае памяшканне не пранікае, бо хаткі, зразумела, робяцца без вокан. На паветра выхаду няма. Два або некалькі ходаў вядуць проста ў ваду, але зімой іншы раз няма выхаду на паветра і з вады — у моцныя марозы ледзяная століь пакрывае ўвесь вадаём. Вентыляцыя адбываецца толькі праз маленькія шчыліны ў надводнай частцы. Баброва хатка зімой падобна на крэпасць: толькі праз незамёршыя палонкі, калі яны ёсць, могуць бабры выбірацца на паверхню, на паветра.

Калі-б удалося заглянуць пад лёд, можна было-б убачыць, як зрэдку з хаткі выплывае адзін з баброў. Ён плыве, рухаючы заднімі лапамі, на якіх маюцца перапонкі, і дапамагаючы сваім незвычайным веслападобным хвастом. Днём слабае святло ледзь пранікае праз пакрыты снегам ледзяны дах. Пад вадой пануе поўзмрок. Бабёр у гэтай поўцемры дабіраецца да сваіх харчовых сховішчаў. Яшчэ ўвосень працалюбівыя жывёлы рыхтуюць вялікія запасы вярбовага і іншага галля, карой якога яны харчуюцца, а таксама вялікую колькасць карэнняў белых лілей і кубышак. «Кладовыя» гэтыя пад вадой, і бабрам зімой няцяжка дабірацца да іх. Вялікія запасы стравы выратоўваюць іх ад галоднай смерці.

Зіма прытармажвае жыццё баброў таксама, як і жыццё многіх іншых жывёл. Летам іх дзейнасць значна актыўнейшая. Працуюць бабры пераважна ноччу. Яны падгрызаюць і валяць дрэвы, зразаюць галіны, транспартыруюць іх да вады, пракладваюць новыя каналы да месцаў сваіх «лесанарыхтовак» або паглыбляюць старыя, працуюць на рамонце плацін і хатак. У час гэтай актыўнай дзейнасці яны часта становяцца здабычай шматлікіх ворагаў. Паласавацца імі любяць многія драпежнікі: рысь, воўк, мядзведзь, нават лісы, якія нападаюць на маладых баброў, з птушак — пугач. Да зімы, апрача нарыхтоўкі кармоў, бабрам трэба правесці вялікую работу па рамонту хатак і нор (не ўсе бабры жывуць у хатках; там, дзе берагі дазваляюць, яны капаюць у зямлі норы). Зімой бабры рэдка выплываюць з хаткі, галоўным чынам за кормам альбо па трывозе, калі які-небудзь галодны драпежнік занадта настойліва дамагаецца папасці ў іх жыллё, альбо калі патрабуецца «адрамантаваць» плаціну. Значна ажыўляюцца яны ў шлюбны перыяд, які бывае ў лютым — сакавіку. Яны нават выбіраюцца праз палонкі на паверхню і вандруюць па снезе.

Калі подыхі вясны (красавік-май) абвяшчаюць аб павелічэнні і ўзбагачэнні харчу, самка нараджае два-тры маленькія бабраняты. Сям'я павялічваецца, але ненадоўга. Двухгодкі, якія лічацца ўжо дасягнуўшымі сталасці, ідуць ад бацькоў і пачынаюць самастойнае жыццё.

Настане лета, і зноў па начах у тых мясцінах, дзе водзяцца бабры, пачуецца шум працавітых звяроў.

**М. АРОНАЎ.**



Алесь АСІПЕНКА

# НАСЦІНА СЛОВА

Мал. А. Волкава.

Аб тым, што Насця кахае Рыгора Коўзеля, ведала ўся вёска. Аднак многія гаварылі — Насця Рыгору не пара. Дзяўчына яна ціхая — слова не выцягнеш — ды і не прыгажуня: кароценькая, тоўсценькая, з круглым тварам і прыплюснутым носам. Ідзе Насця па вуліцы, як калабок румяны



коціцца. Рыгор-жа — хлопец прыгожы: валасы кольцамі, чорныя вочы, сам стройны, — ды і пагаварыць майстра.

Хлопцы часта жартавалі:

— Вязе табе, Рыгор, вунь Насця зусім высахла!

Рыгор толькі ўсміхаўся: любіў ён слухаць размовы пра сваю прыгажосць.

Насця хоць і не сохла, але часта думала пра Рыгора. У думках яна была смелая і рашучая: называла яго рознымі пяшчотнымі імёнамі і нават дазваляла (таксама ў думках) пацалаваць сябе. А пры сустрэчы — бянтэжылася, чырванела, смешна заікалася.

Аднойчы ў іх адбылося спатканне, хоць і выпадковае.

Насця за бацьку малако на здатачны пункт павезла і па дарозе нагнала Рыгора. Ішоў ён не спяшаючыся, збіваў пруцікам галоўкі рамонак, а як заўважыў Насцю, усцешыўся.

— А-а-а, Насця, дзень добры! Вось дарэчы. А то, думаў, спазнюся і нагоняй атрымаю. Ігар Васільевіч не любіць, каб спазняліся.

Яны селі на возе побач. Рыгор узяў лейцы, сцебануў каня, і колы заскакалі па каляінах.

Насця адчувала сябе шчаслівай. Вось каб дзяўчаты ўбачылі! Яна яшчэ раз паглядзела непрыкметна на Рыгора, падумала: «Так-бы вось у сельсавет паехаць, запісацца...» Аж пачырванела ад такой думкі.

— А ты чаго ў раён едзеш?

Рыгор паглядзеў на яе зверху ўніз.

— На нараду группоргаў. Хіба не чула? Ігар Васільевіч загадаў вопытам падзяліцца. А мне што — калі ласка! Другі, вядома, да чаго сваім розумам не дойдзе, у іншага хоча пазычыць. А толькі дарма: арганізатарскія здольнасці трэба мець, густ да саюзнай работы. У мяне работа, як па маслу, ідзе. Затое Ігар Ва[illegible]віч цэніць, часта гаворыць: [illegible]це табе, Коўзель, большую пасаду ха-ка дадзім». Толькі я не хачу [illegible]бот многа.

Насці было прыемна, што гэтак цэняць Рыгора. Але яна спалохалася, раптам Ігар Васільевіч даведаецца, што ў іх другі месяц камсамольскія сходы не праводзяцца і ўсыпле гэтаму самаму Рыгору.

— А што мы сходы даўно праводзілі, за гэта нічога не будзе? — нясмела запытала яна.

— Адразу відаць, што ты ў арганізацыйна-масавай рабоце — ні мурмур. Эх, Насця, трэба больш газет чытаць! Ты якую выпісваеш?

Насця пачырванела. Падпіску яна на гэты месяц так і не прадоўжыла. Усё часу не было...

— Ну, вось бачыш, а яшчэ камсамолка! Хоць-бы раённую выпісала. І ў кіно ты рэдка ходзіш. Якую карціну ў апошні раз глядзела?

Насця, сапраўды, прапусціла дзве апошнія карціны, а назвы той, што перад імі глядзела, забылася.

Рыгор паківаў галавой.

— Нічога не зробіш, прыдзецца над табой шэфства ўзяць.

У Насці аж сэрца зайшлося ад радасці. Гэта-ж трэба — як ён спрытна ўсё падвёў. Няўжо-ж і ён думае пра яе?..

Здаўшы малако, Насця забегла ў цырульню, абрэзала рудыя хвосцікі-касічкі, зрабіла завіўку і ў самым цудоўным настроі паехала дахаты.